НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 22 (763) 13 чэрвеня 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыдн..., у сер...

## Раман Шырокаў: любімы расійскі футбаліст



Ён нагадвае герояў «Нашай Рашы». Старонка 9.

## Дынастыя Авяр'янавых



Уладальнік мінскіх рынкаў стварыў бізнэс і для сваіх дзяцей. Старонка 6.

# Футбол у Варшаве, пратэсты ў Маскве, у Мінску — нічога

Ператрусы ў Навальнага і Сабчак, Марш мільёнаў. **Старонка 3.** Расейцы ў Варшаве, стадыёны «Еўра». **Старонкі 9, 11.**




Чэмпіянат Еўропы — месца сустрэчы не толькі спартоўцаў, але і фанатаў.

REUTERS

**Тэндэнцыі**

## У Маскве прайшоў Марш мільёнаў

Апазіцыя ўхваліла **«Маніфест свабоднай Расеі»** з патрабаваннем адстаўкі Пуціна.

У Дзень Расіі апазіцыя выйшла на другі Марш мільёнаў. На праспекце Сахарава сабралася 50 тысяч чалавек. Напярэдадні следчыя правяліператрусы на кватэрах і ў офісах лідараў апазіцыі. Гэта не збіла пратэставую хвалю.

Падзеі ў Маскве ўсё больш нагадваюць найноўшую гісторыю Беларусі. Пуцінская Дума прыняла драконаўскі закон аб мітынгах. А 11 чэрвеня следчыя ўварваліся адразу да барацьбіта з карупцыяй Аляксея Навальнага, тэлевядучай Ксеніі Сабчак, палітыка Барыса Нямцова і важакоў апазіцыйнай моладзі. Пера-

### «Расія будзе свабоднай»

трусы прайшлі «ў межах расследавання справы аб масавых беспарадках 6 мая на Балотнай плошчы ў Маскве». Цікава, што ў Беларусі спецслужбы ўчынілі пагромы ў апазіцыйных асяродках у першую ж ноч пасля Плошчы, а ў Расіі — больш чым праз месяц пасля пратэстаў.

Тым не менш, апазіцыйна настроеныя расейцы зноў выйшлі на вуліцы. Асобнымі калонамі, але адной маніфестацыяй прайшлі камуністы і лібералы, а з імі проста грамадзяне. Левыя і нацыяналісты падзялілі Страсны бульвар з гумарам: левыя занялі левы бок, правыя — правы.

**Працяг на старонцы 3.**

**Пра-бел**

### Як пачаць размаўляць па-беларуску?

Парады чалавека, які сам гэта прайшоў. **Старонка 7.**



**Грамадства**

### Сто ідэй БРСМ

Ад грыба-вясёлкі да медыцынскай рэформы. **Старонка 4.**




**Здарэнні**

### «Прыехалі бандзюгі і парэзалі людзей»

Бойка на танцах скончылася дзвюма смерцямі. **Старонка 5.**



**Маршруты па Беларусі**

### Экстрэмальная Валожыншчына

Лета — час адпачынку. Падарожжа аднаго дня. **Старонка 15.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі старонку 2.

# Маланка ўдарыла ў палатку са школьнікамі

Трагедыя адбылася **падчас паходу** пад Салігорскам.



11 салігорскіх школьнікаў з чатырма настаўнікамі начавалі ў лесе ля мястэчка Старобін. Наляцела хмара. Маланка ўдарыла ў дрэва, пад якім стаяў адзін з намётаў. Разрад па зямлі перайшоў у палатку, дзе сядзела чацвёра 16-гадовых юнакоў. У выніку адзін хлопчык загінуў, два хлопцы і дзяўчына трапілі ў рэанімацыю і кардыялогію. Іх стан — здавальняючы.

У МНС нагадваюць: падчас навальніцы катэгарычна забаронена купацца і лепш адысці далей ад вады. Аўтамабілістам не варта запраўляць машыну падчас навальніцы, а непагадзь лепш перачакаць у салоне. Не варта карыстацца мабільнікам і ноўтбукам.

Калі вы ў хаце, трэба зачыніць вокны і засунуць бляху ў печы.

Ні ў якім разе нельга хавацца ад навальніцы пад вялікімі дрэвамі. Акурат яны прыцягваюць разрады.

**Сяргей Гезгала**

## Хлопчык патануў у лагеры

Трагедыя здарылася ў летніку **«Купалінка» пад Радашкавічамі**.

Пра гэта «Нашай Ніве» паведаміла чытачка, чыя дачка адпачывае ў лагеры.

У «Купалінцы» пацвердзілі факт трагедыі, што адбылася 11 чэрвеня, але пра акалічнасці гаварыць не сталі. Супрацоўніца лагера заявіла, што кіраўніцтва прадпрыемства, якому належыць лагер, — Завода сродкаў комплекснай аўтаматызацыі, — забараніла даваць каментары.

Чытачы паведамляюць, што ў лагеры адпачывала група дзетдомаўцаў.

Дарэчы, з пачатку 2012 года ў Беларусі патанулі ўжо 167 чалавек, з іх 15 непаўналетніх, паведамляе БелТА.

**Сямён Печанко**

## Пасажыры заступіліся за п'янога кіроўцу аўтобуса

Як паведаміў сайт kraj.by, здарэнне адбылося 11 чэрвеня. Аўтобус ехаў па маршруце Вардомічы-Вілейка. Супрацоўнікі ДАІ спынілі яго ўжо ў райцэнтры. Агляд паказаў, што ў кіроўцы ў крыві было 1,12 праміле алкаголю пры дапушчальных 0,3.

Высветлілася, што малады чалавек, 1986 года нараджэння, раней працаваў у аўтапарку ў Маладзечне, дзе неаднаразова быў заўважаны выпівушым. На новым месцы ён адпрацаваў два месяцы.

Адметна, што 20 пасажыраў аўтобуса патрабавалі адпусціць кіроўцу. Маўляў, калі ён правёз іх дзясяткі кіламетраў, то давязе і да вакзала. На месца здарэння быў выкліканы новы кіроўца, які і давёз пасажыраў.

Хлопцу пагражае штраф у памеры ад 15 да 35 базавых велічынь (1,5-3,5 млн руб.), а таксама пазбаўленне правоў. Аштрафуюць і таго, хто дапусціў да працы невярозага.

**Кастусь Матушыч**

## ДТЗ пры пікантных абставінах

У Мінску маладая пара з'ехала **на аўто ў Свіслач**, калі...



Нестандартны выпадак адбыўся ў панядзелак вечарам у сталіцы. У мікрараёне Серабранка, недалёка ад вуліцы Малініна, аўтамабіль Peugeot апынуўся ў рэчцы Свіслач.

У ДАІ Ленінскага раёна паведамілі, што здарэнне як ДТЗ не афармлялася: «Са словаў маладога чалавека, ён вырашыў у бязлюдным месцы прыемна пабавіць час з дзяўчынай. Паставіў машыну на ручны тормаз. У нейкі момант выпадкова націснуў на «ручнік», і Peugeot пакаціўся. Пасля падзення ў раку пара выбралася з аўтамабіля, малады чалавек выклікаў эвакуатар. Алкаголю ў крыві выяўлена не было».

**Паводле Onliner.by**

**Памяць**

## Ці ўшануем Чарвякова і Галадзеда?

16 і 21 чэрвеня — 75-годдзе іх смерці.

Расейскія СМІ ў гэтыя дні адзначаюць 75-ю гадавіну з дня расстрэлу маршала Тухачэўскага ды іншых военачальнікаў.

Ці ўшануюць 16 чэрвеня ў Беларусі 75-годдзе з дня трагічнай смерці старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР і СССР Аляксандра Чарвякова? Ці ўшануюць 21 чэрвеня ў Беларусі 75-годдзе з дня трагічнай смерці старшыні Савета Народных Камісараў БССР Мікалая Галадзеда? Усе яны загінулі ў трагічным 1937-м.

**Анатоль Сідарэвіч**

**Бібліятэка**

## 1228 старонак найноўшай палітычнай гісторыі




Выйшла «Палітычная гісторыя незалежнай Беларусі (1991—2006)». Гэтае выданне прысвечана нашай найноўшай гісторыі. На цяпер гэта самая поўная крыніца ведаў па сучаснай беларускай палітычнай гісторыі.

Так сталася, што гэтая кніга выйшла друкам 11 чэрвеня, акурат у першую гадавіну смерці выбітнага палітолага Віталя Сіліцкага — ён актыўнага аўтара.

Гэта найбольшая аб'ёмам кніга на беларускай мове ў 2012 годзе — яна мае 1228 старонак вялікага фармату А4.

**Пытайцеся ў распаўсюднікаў. Замовы праз Кнігарню «Arche»: Сяргей Бахун, тэл.(029) 724-54-56, (029) 624-54-56.**

**Навука**

## Зачацце ад траіх

У Брытаніі метад зачацця ад дзвюх жанчын і аднаго мужчыны прызнаны этычным. З дапамогай такога «трайнога» апладнення медыкі спадзяюцца пазбавіць плод ад некаторых спадчынных генетычных захворванняў.

Новая унікальная тэхналогія штучнага зачацця прадугледжвае выдаленне здаровай часткі малекулы ДНК маці з яе яйцаклеткі, і наступнае ўкараненне атрымананага генетычнага матэрыялу ў яйцаклетку жанчыны-донара. Такім чынам, для гэтай вельмі складанай аперацыі патрэбныя дзве жанчыны і адзін мужчына.

З этычнага пункту гледжання нараджэнне «гібрыдных дзяцей» спалучана з мноствам праблем, як этычнага, так і юрыдычнага характару. Тым не менш, навукоўцы ўпэўненыя, што зроблена вельмі важнае для развіцця чалавецтва адкрыццё.

**ДзБ**



**Сцісла**

### У МАПІДзе выявілі злоўжыванні

Заведзеная крымінальная справа ў дачыненні да кіраўніка аднаго з падраздзяленняў ААТ «МАПІД». Паводле папярэдніх звестак праваахоўных органаў, падазраваны з красавіка 2010 года па ліпень 2011 года на шкоду інтарэсам ААТ «МАПІД» аддаваў незаконныя ўказанні залежным ад яго па службе работнікам аб выкананні ў працоўны час рамонтных работ на ягоным участку ў вёсцы Хацежына Мінскага раёна.

**Кур'ёз**

### Іспанцы мяркуюць, што шведаў абыграла Беларусь

Аўтарытэтная іспанская газета Marca мяркуе, што зборную Швецыі ў панядзелак абыграла не Украіна, а зборная Беларусі. А матч прайшоў у маскоўскіх Лужніках.

**Пошта Рэдакцыі**

### Юзабіліці па-глыбоцку

«Веснік Глыбоччыны» — тыповае раённае выданне. Газета выходзіць на беларускай мове. Мае свой сайт. Навіны там маюць незвычайны выгляд: назвы на расейскай мове, а тэкст — на беларускай. Большай дурасці ў Белнэце я пакуль не бачыў. Рэдакцыя каментуе гэта так: «А по поводу того, что на сайте материал на русском языке, можно сказать лишь то, что этот язык для интернета является понятным, это объясняет и наличие русскоязычных заголовков».

**Аляксей**

**Ад Рэд.** Тое самае на сайтах «Пастаўскага краю», і «Браслаўскай звязды», і «Мёрскіх навінаў», і «Родных вытокаў» (Докшыцы), і пружанскіх «Раённых будняў». Беларусы такія беларусы...

**Прыватная абвестка**

### Котка Шляхта шукае ўтульны дом (з гаспадарамі)

Трохколеравая прыгажуня, паўперс-экзот, з доўгай поўсцю, са спакойным, стрыманым, але яркім характарам, шукае новы дом (з адказнымі, клапатлівымі гаспадарамі, што будуць старанна яе вычэсваць, сталаваць паводле адмысловай дыеты, лашчыць, песціць і захапляцца яе прыгажосцю). Котачка стэрэлізаваная, абяцае карыстацца латочкам і цаніць прыгажосць непадрапанай мэблі :). Тэл. 029-77 88 585 (МТС) Галіна

### Самае чытанае на nn.by за 6-12 чэрвеня

1. Міліцыянер-заяц спрабаваў збегчы ад кантралёра — відэа
2. Дык дзе знаходзіцца Польшча?
3. Расійскія фанаты збілі польскіх ахоўнікаў парадку — відэа
4. Якая самая крутая ў Беларусі прафесія?
5. 40 самых моцных фотаздымкаў стагоддзя
6. Расійскія фанаты прайшлі маршам па Варшаве — фота, відэа
7. Чорны спіс: хроніка беларускага андэграўнду — відэа
8. Тарнада ў Гродне: аўтобус падкінула на два метры — фота, відэа
9. Удзельніку бойкі ў Столінскім раёне пагражае расстрэл
10. Беларускі эканамічны цуд за 120 секундаў

# У Маскве прайшоў Марш мільёнаў

Працяг са старонкі 1

Удзельнікі шэсця скандавалі: «Расія будзе свабоднай». Людзі зноў прынеслі сотні самаробных плакатаў. Сярод удзельнікаў шэсця былі заўважаныя музыка Андрэй Макарэвіч, кіраўнік фонду «Горад без наркотыкаў» Яўген Ройзман і лідар Ісламскага камітэта Расіі Гейдар Джамаль.

Удзельнікаў шэсця прапускалі праз 52 металадэтэктары. Для аховы парадку вывелі 12 тысяч паліцыянтаў.

Тым часам Навальны, Сабчак і адзін з лідараў апазіцыйнага руху «Салідарнасць» Ілля Яшын правялі дзень у суправаджэнні адвакатаў у Следчым камітэце.

Пуцінцы распаўсюдзілі інфармацыю, што падчас ператрусу на кватэры ў Сабчак сканфіскавалі грошы ў памеры не менш за мільён еўра. Пакуль не вядома, ці гэта сапраўды так і чые гэта былі сродкі.

Пуцін жа ў часе маршу апазіцыі даваў прыём у Крамлі з нагоды Дня Расіі. Пілі французскае шампанскае і іншыя напоі на кожны густ. «Багацце закусак і гарачых страў, прапанаваных гасцям, дзівіла ўяўленне, — піша Lifenews.ru. — Вэнджаная сцерлядзь, марскія грабеньчыкі, аленіна, вустрыцы, камчацкія крабы, свіная рулька, катлеткі з дзіка, а на дэсерт — свежыя ягады, садавіна і марожанае».

**Мікола Бугай**



У кватэры Аляксея Навальнага ператрэслі ўсё аж да ламінату.

# Крымінальны мясакамбінат

У Гомелі **асуджаны 29 работнікаў** мясакамбіната і 3 міліцыянты.

Абвешчаны прысуды ў дачыненні да вялікай групы кіраўнікоў і работнікаў ААТ «Гомельскі мясакамбінат», а таксама трох супрацоўнікаў міліцыі. У статусе абвінавачаных па справе, якая слухалася ў Гомельскім абласным судзе, праходзілі 29 чалавек — ад генеральнага дырэктара да рэзнікаў жывёлы.

Крымінальныя справы былі распачаты, у прыватнасці, на начальнікаў цэхаў, эканамістаў, наменікаў дырэктара, загадчыкаў сталовай і магазіна, а таксама трох міліцыянтаў.

Суд быў марафонскі. Слуханні пачаліся яшчэ 5 ліпеня 2011 года. Былы дырэктар, які ўзначальваў прадпрыемства з 1989 года, абвінавачваўся ў стварэнні арганізаванай групы для ўчынення злачынстваў. Паводле версіі следства, разам з іншымі кіраўнікамі камбіната ён распрацаваў структуру групы, у якую ўцягваліся службовыя асобы, была наладжана сістэма канспірацыі пры падрыхтоўцы да ўчынення крадзяжоў. У выніку групе ўдалося распрацаваць розныя спосабы стварэння лішкаў прадукцыі пры парушэнні тэхналогіі на шкоду якасці і колькасці вырабаў, што выпускаліся, а таксама сістэму супрацьдзеяння праваахоўным органам у выпадку выяўлення злачыннай дзейнасці. Суду ўдалося высветліць, што крадзяжы ўчыняліся з 2004 па 2009 гады.

## У сталоўцы мясакамбіната было арганізавана бясплатнае кармленне «патрэбных» людзей

Згодна з абвінавачаннем, арганізаваная група выкрала прадукцыі не менш як на 263 млн рублёў, учыніла замах на крадзеж прадукцыі не менш як на 49 млн рублёў, а таксама знішчыла прадукцыі з мэтай схаваць сляды злачынстваў не менш як на 36 млн рублёў.

Размова ідзе пра тоны мяса і каўбасы. Пры спробе схаваць сляды злачынстваў знішчылі не менш як 12 тонаў мясной прадукцыі і 18 кіламетраў штучнай абалонкі.

Створаныя злачынным шляхам лішкі прадукцыі «мяснікі» выкарыстоўвалі на асабістыя патрэбы, а таксама для рэалізацыі па зніжаных цэнах «патрэбным» людзям. Мяса, каўбаса і іншая прадукцыя таксама бясплатна перадаваліся супрацоўнікам міліцыі і чыноўнікам мясцовай выканаўчай улады, каб яны не прымалі мер па спыненні злачыннай дзейнасці.

У сталоўцы мясакамбіната было арганізавана бясплатнае харчаванне «патрэбных» людзей.

8 мая некаторым абвінавачаным змянілі меру стрымання — іх вызвалілі пад падпіску аб нявыездзе, прычым частка з іх не толькі выйшлі на волю, але і вярнуліся на працу, бо існуе прэзумпцыя невінаватасці.

11 чэрвеня суд прыгаварыў былога дырэктара ААТ «Гомельскі мясакамбінат» да сямі гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці, такі ж тэрмін атрымаў і галоўны інжынер прадпрыемства.

Начальнік каўбаснага цэха атрымала сем з паловай гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Яны пакараны за ўчыненне крадзяжоў шляхам злоўжыванняў.

На падставе артыкулаў 431 і 432 Крымінальнага кодэкса (даванне хабару і пасрэдніцтва ў хабарніцтве) кіраўнікі апраўданы. Начальнікі цэхаў атрымалі па тры-чатыры гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Яны таксама былі апраўданы паводле артыкулаў 431 і 432 КК.

Іншыя работнікі — вагаўшчыкі, кладаўшчыкі, грузчыкі, майстры — прыгавораны да абмежавання волі на тэрміны ад паўтара да чатырох гадоў.

Тры міліцыянты пакараны пазбаўленнем волі на тэрмін ад трох з паловай да чатырох гадоў, а таксама штрафамі на 10 млн рублёў кожны.

Трох работнікаў мясакамбіната апраўдалі, яшчэ тры чалавекі трапілі пад амністыю.

Частка абвінавачаных знаходзіліся пад арыштам з 2009–2010 гадоў, таму ў некаторых пакаранне ўжо лічыцца адбытым.

**Алена Германовіч, БелаПАН**

# Кітаю — 60%, Беларусі — 40%

Лукашэнка падпісаў указ аб будаўніцтве Кітайска-беларускага **індустрыйнага парку**.

У Смалявіцкім раёне Мінскай вобласці на плошчы 80 квадратных кіламетраў усё ж будзе створаны Кітайска-беларускі індустрыяльны парк. Адпаведны ўказ №253 Аляксандр Лукашэнка падпісаў 5 чэрвеня.

Згодна з указам, індустрыяльны парк будзе ўяўляць сабой асаблівую эканамічную зону, надзеленую на 50 гадоў спецыяльным прававым рэжымам. Прыярытэтныя кірункі, што намячаюцца да развіцця ў парку, — электроніка, біямедыцына, тонкая хімія і машынабудаванне. Індустрыяльны парк стане асобным тэрытарыяльным утварэннем, са сваім органам кіравання. Такім чынам, яго выведуць з-пад кантролю мясцовых органаў улады.

Таксама ўказам прадугледжана стварэнне супольнай беларуска-кітайскай кампаніі па развіцці індустрыйнага парку. Доля Беларусі ў статутным фондзе гэтай кампаніі складзе 40%, Кітая — 60%. Праўда, 40% дастаткова для блакуючага пакета.

Мясцовыя жыхары і дачнікі актыўна пратэстуюць супраць будаўніцтва парку. Яны ўпэўнены, што ад такога маштабнага праекта, які прадугледжвае будаўніцтва соцень прадпрыемстваў, непазбежна пацерпіць экалогія гэтых месцаў. Да таго ж эколагі заяўляюць, што індустрыйная забудова пад Мінскам, у рэкрэацыйнай зоне сталіцы, сур'ёзна пагоршыць экалагічную абстаноўку ў мегаполісе.

**Ягор Марціновіч**

# «Еўраопт» стане яшчэ і банкам

А таксама **адкрыў крамы** ў Маскве. —

Кампанія «Еўрагандаль», якая валодае адной з найбуйнейшых прадуктовых сетак Беларусі, 85-ю крамамі «Еўраопт», пашырае дзейнасць у новых сектарах рынку. Уласнікі кампаніі выкупілі 92,5% акцый Міжнароднага рэзервовага банка. Агульны кошт угоды склаў 4,7 мільёна еўра. Генеральны дырэктар «Еўрагандля» Андрэй Зубкоў растлумачыў, што набыццё банка дапаможа развіццю сеткі бытавой тэхнікі «Тэхнаплюс». «Закуп тэхнікі на 80% завязаны на крэдыты. Мы хацелі б аказваць падтрымку купцам у гэтай частцы», — сказаў ён.

Міжнародны рэзервовы банк — адзін з самых маленькіх банкаў краіны. Ён займае передапошняе месца сярод 32 канкурэнтаў па велічыні актываў. Капітал банка складае ўсяго каля 3 мільёнаў еўра.

Тым часам першыя гандлёвыя аб'екты «Еўраопта» адкрыліся ў Маскве. Неўзабаве яны ўзнікнуць і ў іншых расійскіх гарадах. Асартыментны прыярытэт у іх аддадзены беларускай прадукцыі беларускай вытворчасці. Цэны ў крамах будуць меншыя, чым у расійскіх канкурэнтаў, а часам і ніжэйшыя, чым у Беларусі, хваляцца ўласнікі. Цікава, як такое можа быць?

**ЯМ**



SVABODA.ORG

## Фотафакт

**9 чэрвеня памерла Галіна Малчанава. 64-гадовая жанчына перажывала чарговае зняволенне сына-палітвязня, што адбілася на яе хваробе. Бацька Аляксандра цяпер застаўся адзін. Пакуль сын быў на свабодзе, утрымліваў сям'ю. Падтрымаць Малчанава-бацьку можна грашовым пераводам: 222120 Барысаў (Мінская вобласць), вул. Ленінская, д.31, кв.1 Малчанаву Валерыю.**

## Адрасы палітвязняў

**Алесь Бяляцкі** — 213807, Магілёўская вобл., Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, ПК №2

**Мікалай Аўтуховіч** — 230023, Гродна, вул. Кірава, 1, турма №1

**Павел Севярынец** — 225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в.Куплін, ПУАТ-7

**Мікалай Статкевіч, Яўген Васьковіч** — 212011 Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма №4

**Зміцер Дашкевіч** — 211791, Віцебская вобл., Глыбокае, вул.Савецкая, 205ПК №13

**Эдуард Лобаў, Аляксандр Францкевіч** — 225295 Брэсцкая вобл., Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, ПК №22

**Мікалай Дзядок** — 213004, Магілёўская вобл., Шклоў, ПК-17

**Сяргей Каваленка, Павел Сырамолатаў** — 213030, Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, ПК №19

**Арцём Пракапенка** — 212013, Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК №15

**Ігар Аліневіч** — 211440 Віцебская вобл., Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, ПК №10

**КМ**

# Сто ідэй БРСМ

**Ад грыба-вясёлкі да медыцынскай рэформы.**

Прыём праектаў на конкурс даўно скончыўся, а арганізатары працягваюць атрымліваць працы, паведамляе дзяржаўнае тэлебачанне. Мы вырашылі праверыць, што ўяўляюць з сябе «найлепшыя інавацыйныя ідэі ў розных сферах сацыяльнага і эканамічнага развіцця краіны».

### «Алкагалізацыя грамадства»

Сярод сотні праектаў прыцягваюць увагу вострыя тэмы. «Алкагалізацыя грамадства дасягнула пагрозлівых маштабаў. (...) Асаблівую трывогу выклікае ўзмацненне гэтай з'явы сярод моладзі», — піша адзін з аўтараў. Ён прапануе комплекс адукацыйна-прафілактычных мерапрыемстваў для школьнікаў і студэнтаў.

Аўтарка праекта «Фонд дапамогі маладым мамам» канстатуе кепскае дэмаграфічнае становішча ў краіне. Яна мяркуе, што наяўных дзяржаўных праграм падтрымкі маладых бацькоў недастаткова і прапануе стварыць адмысловы фонд. Ён дапаможа маладой маме адшукаць працу з гнуткім графікам. Працадаўца, які возьме на працу такую супрацоўніцу, атрымае падатковыя льготы.

Яшчэ адзін аўтар кажа пра неабходнасць рэфармавання сістэмы аховы здароўя, у прыватнасці — увесці абавязковае медыцынскае страхаванне. За прыклад ён прапануе ўзяць досвед Ізраіля.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Што такое «100 ідэй для Беларусі»**

У конкурсе пяць намінацый: «Грамадска-патрыятычнае выхаванне моладзі», «Эканамічныя ініцыятывы», «Сям'я — аснова сучаснага грамадства», «Фармаванне здаровага ладу жыцця» і «Экалогія і энергазберажэнне». Праекты змешчаныя на сайце БРСМ. Аўтараў-пераможцаў запросяць на Рэспубліканскі моладзевы інавацыйны форум.

### Эўрыка?

Некаторыя аўтары аддалі перавагу менш глабальным праблемам. Але дробнае — не значыць горшае. Так, адзін з праектаў прысвечаны вырошчванню грыба-вясёлкі. Яе аўтар, біяхімік, займаецца даследаваннем вясёлкі як моцнага сродку для лячэння цукровага дыябету.

Студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту ўнеслі некалькі прапановаў. Яны стварылі эксперыментальны экзэмпляр пераноснага прыстасавання для сілкавання мабільнага тэлефона. Яго можна насіць з сабой і выкарыстоўваць пры патрэбе ў любым месцы. Магчыма, гэтае няхітрае вынаходніцтва зробіць рэвалюцыю.

Акрамя таго, студэнты ВНУ прапануюць арганізаваць камп'ютарныя курсы для пажылых людзей. Гэта надасць ім упэўненасці ў сабе і дапаможа зразумець, чым жывуць іх дзеці і ўнукі.

### Трохі пудлаў

Пад няўдалай назвай «Генацыд габрэйскага народа» хаваецца праект па ўвекавечванні памяці ахвяр нацызму на Кобрыншчыне.

А вось фотаздымак ахопленага агнём гаража. Гэта праект па зносе прыватных гаражоў і пабудове падземных гаражных кааператываў. Застаецца спадзявацца, што ён не прадугледжвае такіх радыкальных метадаў вырашэння першай задачы.

Аўтар з Гомеля прапануе ўкараніць шэраг інавацый для прыцягнення замежных турыстаў у свой горад. Прапануе зрабіць надпісы па-англійску, стварыць сетку сувенірных крамаў, а таксама вырашыць набалелае пытанне грамадскіх прыбіральняў. Ідэі разумныя, але наўрад ці гэтыя даўнія здабыткі цывілізацыі можна назваць інавацыйнымі.

**Сямён Печанко**

## Кантралёр затрымаў міліцыянта-безбілетніка

**Мікалай Паркалаў не хоча кантактаў з прэсай: годзе з мяне славы.**

Раніцай 7 чэрвеня ў мінскім гарадскім аўтобусе № 138 здарыўся шчэ які інцыдэнт: міліцыянт-безбілетнік паспрабаваў уцячы ад кантралёра. Ён нават штурхануў рэвізора, спрабуючы вырвацца з аўтобуса. Але той не адступіўся і затрымаў парушальніка ў пагонах.

Гэтую сцэну запісаў на камеру мабільнага пасажыр. Ён выклаў відэа ў інтэрнэт, і яно хутка разышлося па сайтах. Кантралёр стаў зоркай, многія чытачы сайтаў дзякавалі яму за ўчынак. Яго завуць Мікалай Паркалаў, ён працуе начальнікам сектара аховы працы ў 4-м тралейбусным парку. Перад тым выпадкам ён збіраўся ў адпачынак на дачу. Мікалай Аляксеевіч адмовіўся ад размовы з прэсай. Кажа: годзе з мяне славы. У парку карэспандэнту «НН» сказалі, што ганарацца такім супрацоўнікам.

Сталічная міліцыя па факце здарэння вядзе праверку.

**СП, Аксана Рудовіч**

## Новы эксперымент у школах: падушнае фінансаванне

З верасня гэтага года частка школ у якасці эксперымента будзе атрымліваць бюджэтныя грошы ў залежнасці ад колькасці вучняў. Мяркуецца, што «падушнае фінансаванне» прывядзе да павелічэння заробку настаўнікаў, якія карыстаюцца «попытам» у вучняў.

На сёння агульнаадукацыйныя школы атрымліваюць з дзяржбюджэту пэўную суму грошай на сваю дзейнасць. Пры гэтым колькасць навучэнцаў не адыгрывае істотнай ролі. У адрозненне ад ... на аднаго вучня некаторыя школы атрымліваюць больш сродкаў, чым іншыя.

Гэтую праблему чыноўнікі паспрабуюць вырашыць з дапамогай падушнага фінансавання. Груба кажучы, калі на навучанне аднаго хлопчыка ці дзяўчынкі дзяржавай прадугледжаны адзін мільён рублёў, то школа, у якой вучацца 100 чалавек, атрымае 1х100=100 мільёнаў, а школы, дзе па 500 вучняў — адпаведна 500 мільёнаў.

Пры гэтым да малакамплектных школ (сярод іншага, сельскіх, а таксама школ з беларускай мовай навучання) будуць ужывацца асобныя крытэры і каэфіцыенты.

З новага навучальнага года такая сістэма размеркавання сродкаў будзе выпрабаваная ў некаторых раёнах Мінска і абласцей, паведамілі ў Міністэрстве адукацыі. Якія менавіта школы стануць пляцоўкай для эксперымента, пакуль што сакрэт.

Прыватныя школы эксперымент не закране. Яны па-ранейшаму не будуць атрымліваць бюджэтных сродкаў, нягледзячы на тое, што ў такіх установах адукацыі таксама вучацца дзеці падаткаплатнікаў.

Летась такую рэформу правялі ў Расіі. Калі ў Маскве яе вынікі ацэньваюць станоўча, то ў глыбінцы яна прыжываецца з цяжкасцю.

Як падкрэсліваюць у Міністэрстве адукацыі, падушнае фінансаванне школ — гэта эксперымент. А таму загадваць пра яго вынікі ў нашай краіне пакуль што рана.

**АР**

### Каментары

**Уладзімір Мацкевіч, філосаф:** Прывязваць фінансаванне да канкрэтнага вучня, незалежна ад таго, дзе ён навучаецца, ці пераходзіць ён з адной школы ў другую, а не да навучальнай установы — гэта правільны і прагрэсіўны прынцып. Іншая справа, як гэты прынцып будзе ўвасоблены.

**Яўген Лівянт, рэпетытар:** Калі ў выніку заробкі настаўнікаў павысяцца, то гэта плюс. Калі не — гэта чарговая рэформа дзеля формы, «імітацыя бурлівай дзейнасці».

# «Прыехалі бандзюгі і парэзалі людзей»

Вясковая патасоўка скончылася **дзвюма смерцямі**.

Трагедыя здарылася ўначы 5 чэрвеня ў вёсцы Аздамічы Столінскага раёна. Высвятленне адносінаў паміж сваімі і «чужымі» скончылася бойкай: шасцёра вяскоўцаў супраць чатырох прыезджых. У выніку 20-гадовы Іван ад атрыманых траўмаў памёр. Чатырох чалавек шпіталізавалі. Трое атрымалі нязначныя раненні — пасля агляду іх адпусцілі. Такім чынам, зусім не пацярпелі толькі два ўдзельнікі бойкі з дзесяці.

«Прыехалі бандзюгі і парэзалі людзей, — расказала адна з жыхарак Аздамічаў. — Кажуць, што нашы хлопцы ім недзе дарогу не саступілі на машыне — падрэзалі. І бандзюганы запомнілі нумары, а пасля дачакаліся ночы і прыехалі на разборку».

Па словах жанчыны, у вёсцы ў той дзень усё яшчэ адзначалі Тройцу. «На святок» да стрыечнай сястры завіталі і маладыя людзі з Бярозаўскага раёна. Яна адзначыла, што ў прыезджых у руках былі не нажы, а самаробныя заточкі. Калі пачалася бойка, мясцовых хлопцаў было шмат. Але хутка яны разбегліся, калі ўбачылі кроў.

«Хлопца, якога забілі, спачатку стукнулі ў спіну. Ён метраў дзесяць не дабег да хаты, як другі бандзюга дагнаў яго і стукнуў заточкай у сэрца. Той памёр на месцы. А ён цяжка хворы быў — толькі вылечыўся. У яго сямнаццаць гадоў таму ў бойцы бацьку зарэзалі — і маці адна гадавала сына».

Жанчына паведаміла, што прыезджыя ў бойцы не разабраліся і парэзалі нават свайго. А аднаму мясцоваму заточкай трапілі ў крыж на целе, што і выратавала яму жыццё.

Па афіцыйнай інфармацыі, у забойстве падазраюцца 24-гадовы Зміцер і 19-гадовы хлопец. Абодва жыхары Белаазёрска. Апошні раней быў судзімы за крадзеж. Яго і затрымалі на месцы бойкі. А другі паспеў з'ехаць. Яго знайшлі павешаным у Тураве, у суседнім Жыткавіцкім раёне. Вядома, што ў Белаазёрску ў яго засталася маладая жонка, з якой ён толькі ажаніўся.

Крымінальная справа заведзеная па п.13 ч.2 арт.139 (забойства з хуліганскіх меркаванняў) Крымінальнага кодэкса Беларусі. Гэты артыкул прадугледжвае пакаранне аж да расстрэлу.

**Сяргей Макарэвіч**

**Аздамічы —**

вёска ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці. Знаходзіцца за 70 км ад раённага цэнтра. Насельніцтва — каля 1200 чалавек.

**Што кажуць у Белаазёрску**

Мясцовыя расказваюць, што іх зямляк пайшоў на самагубства, бо ў бойцы не разабраўся і парэзаў роднага брата. Падумаў, што забіў, таму і пайшоў на адчайны крок. А брат ягоны выжыў.

**Яшчэ адна смерць у Аздамічах**

8 чэрвеня на вясковай вуліцы 28-гадовы дзяцюк на матацыкле не размінуўся з ЗІЛам. На другі дзень памёр у бальніцы. Ён не меў правоў кіроўцы.

**СП**



BELTA.BY



У Змітра засталася маладая жонка.



У Івана 17 гадоў таму ў бойцы забілі бацьку.

## Справу віцебскага чыноўніка курыравалі з Мінска?

Судзяць былога намесніка старшыні Віцебскага аблвыканкама **Леаніда Кавалёва**.

Пасля таго як яшчэ ў чэрвені мінулага года з'явілася інфармацыя пра магчымае затрыманне Кавалёва, раптоўна наступіла поўная цішыня. А затрыманне ж чыноўніка такога рангу — нячастая з'ява для краіны.

У сакавіку мы звярнуліся ва УКДБ па Віцебскай вобласці, каб даведацца пра лёс былога чыноўніка. Менавіта гэтай структуры прыпісваўся яго арышт. Але там параілі звяртацца ў Цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ. Падобны зварот быў накіраваны ў ЦІГС. Але ніякага адказу і цяпер, праз тры месяцы, так і не атрымалі.

Спроба даведацца нешта ў Віцебскім аблвыканкаме таксама ні да чаго не прывяла. Калі мы набралі нумар былога памочніка Кавалёва і папрасілі запісаць нас да яго на прыём, павісла паўза. Толькі пасля непрацяглай размовы паведамілі, што чыноўнік больш не працуе. Па пытаннях, якія нам задавалі, склалася ўражанне, што супрацоўнікаў райвыканкама праінструктавалі наконт падобных тэлефанаванняў. Дзіўным падалося пытанне: «Вам параілі звярнуцца да Леаніда Леанідавіча як да чалавека (нібыта намякаючы на нешта) альбо як да чыноўніка?»

Затым быў зварот у пракуратуру Віцебскай вобласці. Адказ прыйшоў акурат тады, як стала вядома, што судзяць экс-намесніка губернатара ў Мінскім гарадскім судзе. З пракуратуры ж адказалі, што «крымінальная справа ў адносінах да Кавалёва праваахоўнымі органамі вобласці не расследавалася». Гэта значыць, што справу былога чыноўніка курыравалі з Мінска? Мы звярнуліся да праваабаронцы Алега Воўчака, які раней працаваў следчым пракуратуры. Ён патлумачыў, што практыка з перанакіраваннем справы ў іншы суд здараецца, хаця і нячаста. Па яго словах, у справе Кавалёва можа быць мінскі эпізод альбо нават уся справа звязаная са сталіцай. Яшчэ як варыянт — суд адбываецца ў Мінску, каб гарантаваць непрадузятасць.

Што да сакрэтнасці, то яе нават не адмаўляюць. У Мінскім гарадскім судзе паведамілі, што справа некалькі месяцаў як прыпынена, бо чакаюць вынікі нейкіх экспертыз. І працэс адкрыты. Але іншую інфармацыю адмаўляюцца паведаміць, спасылаючыся на загад старшыні суда.

**КМ**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Леанід Кавалёў**

нарадзіўся ў 1975 у Баранавіцкім раёне. На пасаду намесніка старшыні Віцебскага аблвыканкама быў прызначаны ў снежні 2009. Да гэтага працаваў намеснікам старшыні Віцебскага гарвыканкама, начальнікам упраўлення справамі Мінаблвыканкама.

У 2007-м, калі быў першым сакратаром ЦК БРСМ, падчас жывой лініі ў рэдакцыі газеты «Беларуская ніва» ён пералічыў акцыі БРСМ, у тым ліку і «За Беларусь, любімую, квітнеючую!», параіў «Маладому фронту» праявіць і сябе. «Ці гэта не канкрэтныя справы? Вось дзе няхай праявіць сябе «Малады фронт»: і ў аграгарадках, і на будоўлі фермаў, аб'ектаў сельскагаспадарчага прызначэння — вось там няхай і асвойваюць заходнія грошы».

Магчымай прычынай арышту Кавалёва называецца яго камерцыйная дзейнасць на высокай пасадзе.

## Бязлітаснае злачынства ў святым месцы

За жорсткае **забойства ў Будславе** будуць судзіць мужа і жонку.

Жорсткае забойства 25-гадовай практыканткі Алесі ў мястэчку Будслаў (Мядзельскі раён) узрушыла ўсю краіну. Раніцай 9 снежня 2011 яе знайшлі нежывой, з мноствам сінякоў і нажавых ранаў, у хаце, якую дзяўчына наймала. Адна з шыбаў была выбітая. Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства па гарачых слядах была затрыманая сямейная пара з Будслава.

Следства нарэшце скончанае, справа рыхтуецца да перадачы ў суд. Як паведамілі карэспандэнту «НН» ва ўпраўленні Следчага камітэта па Мінскай вобласці, падазраваныя, муж (1984 г.н.) і жонка (1979 г.н.), давалі супярэчлівыя паказанні, абвінавачваючы ў забойстве дзяўчыны адно аднаго. Гэта зацягвала следства. Але ў выніку абаім выставілі абвінавачванне па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: пп.6, 13, 15 ч.2 арт.139 (забойства, здзейсненае групай асоб з асаблівай жорсткасцю з хуліганскіх меркаванняў), ч.2 арт.205 (крадзеж) і арт.378 (крадзеж асабістых дакументаў). Падрабязнасцяў — хто канкрэтна наносіў удары і якія рэчы былі скрадзеныя — следчыя не раскрываюць. «Толькі пасля прысуду», — адзначылі ў Следчым камітэце.

Увесь час сямейная пара знаходзілася пад вартай.

**КМ**

# Дынастыя Авяр’янавых

**Уладальнік мінскіх рынкаў стварыў бізнэс і для сваіх дзяцей.**

Паслугамі кампаній мільянера Юрыя Авяр’янава карысталіся многія мінчукі, часам і не здагадваючыся пра гэта. Аўтарынак у Малінаўцы, будаўнічы рынак ва Уруччы і рэчавы каля «Дынама» ў 1990-я і 2000-я былі ў пашане ў старэйшага пакалення. Маладзейшыя хадзілі ў клубы «Бліндаж» і Madisson Club, а зусім маленькіх бацькі вадзілі ў парк атракцыёнаў Dreamland. Некалькі гадоў таму Авяр’янаў уваходзіў у дзясятку самых багатых бізнэсоўцаў Беларусі. Цяпер у рэйтынгу газеты «Ежедневник» ён знаходзіцца на 13-м месцы.

Як Авяр’янаў зарабіў свае першыя грошы? Пра пачатак прадпрымальніцкай кар’еры, якая стартавала яшчэ ў 1987 годзе, ён любіць расказваць маладым бізнэсоўцам. Па словах Авяр’янава, працуючы ў сістэме сельскага будаўніцтва, ён арганізоўваў брыгады рабочых-шабашнікаў. У вольны ад асноўнай працы час яны будавалі кароўнікі і свінарнікі, а заадно рэстаўравалі цэрквы і касцёлы. Імя і пэўныя грошы ён гэтым і зарабіў.

## Рынкі ўсіх профіляў

На вяршыні беларускага бізнэсу Авяр’янаў ускочыў у 1991 годзе, калі пасярод сталіцы, на стадыёне «Дынама», адкрыўся ягоны рэчавы рынак. Гандлёвыя месцы там арандавалі больш за дзве тысячы чалавек. Але гэта была дробязь у параўнанні з ягоным чарговым праектам.

У 1994 годзе ён пралабіраваў у Мінгарвыканкаме ідэю пераносу стыхійнага аўтамабільнага рынку на стадыёне «Лакаматыў» (вуліца Варанянскага) за межы горада. Новастораны рынак у Малінаўцы з цягам часу стаў найбуйнейшым на тэрыторыі краіны і дагэтуль расце. Цяпер Мінгарвыканкам прымушае Авяр’янава зрабіць гандаль «цывілізаваным» — загнаць прадпрымальнікаў пад дах новапабудаванага цэнтра «Гандлёвы свет Колца». Мільянер падтрымлівае ідэю, бо гэта дазволіць падняць арэндную плату, затое некаторыя прадпрымальнікі ўсё яшчэ супраціўляюцца пераезду.

Праз чатыры гады пасля Малінаўкі Авяр’янаў стварыў і трэці рынак. На супрацьлеглым канцы горада, ва Уруччы, на месцы армейскіх казармаў паўсталі намёты і кіёскі з будаўнічымі матэрыяламі.

Высокапастаўленых заступнікаў у бізнэсоўца не было — сам Авяр’янаў неадназоразова падкрэсліваў у інтэрв’ю, што вырас у дзіцячым доме. «Я ўсё сваё жыццё сам прабіваў сабе дарогу. У мяне жалезная загартоўка з дзяцінства, і таму ўсе мае праекты, якія першапачаткова іншымі ацэньваліся як правальныя, сёння паспяхова рэалізаваныя», — казаў ён.

## У міжнародным вышуку

Рынкі далі Авяр’янаву першыя мільёны, але і прынеслі гіганцкія непрыемнасці. У пачатку 2000-х на лаўве падсудных аказаліся шасцёра кіраўнікоў аўтамабільнага рынку. Сёмы, як паведамляла тагачасная прэса, трапіў у міжнародны вышук. Гэта і быў Юрый Авяр’янаў. Адной-чы даўшы паказанні следству, ён выехаў за межы краіны.

Следства спрабавала даказаць, што кіраўніцтва рынку брала ад прадпрымальнікаў грошы за права мець гандлёвыя пункты. Сотні тысяч даляраў ішлі міма падатковых інспекцый. У выніку ж кіраўнікі рынку атрымалі 3-3,5 года «хіміі», а некаторыя нават штрафы. Справа Авяр’янава разглядалася асобна, і віны бізнэсоўца не выявілі.

## Клубны і водны магнат

Да таго часу ён ужо пакаштаваў жыццё за мяжой. «Я спрабаваў каля двух гадоў жыць у Амерыцы. Але вярнуўся, — расказваў Авяр’янаў. — У Беларусі больш перспектываў ва ўсім, не толькі ў бізнэсе». Пасля вяртання мільянер стаў яшчэ шчыльней развіваць забаўляльны кірунак свайго бізнэсу. Адкрыўшы некалькі клубаў, рэстаранаў і дыскатэк, ён стварыў у Мінску першы боўлінг-клуб. Сярод ягоных брэндаў — Madisson Club, «Бліндаж», «Афрыка», «U2». Усе яны кантралююцца авяр’янаўскай кампаніяй «Інтэкс». Дарэчы, раней яе дырэктарам быў Алег Піткевіч, які цяпер разам з партнёрамі з Расіі адкрыў у Мінску самы модны і дарагі клуб горада DoZaRi.

У гісторыю горада Авяр’янаў трапіў і як заснавальнік першага прыватнага парку атракцыёнаў «Дрымлэнд» (ЗАТ «Ростэм»). У парку была ўведзеная новая сістэма аплаты — даволі дарагі ўваходны білет, які дазваляў катацца на атракцыёнах без абмежаванняў хоць цэлы дзень.

Мяркуецца, што сёлета побач з «Дрымлэндам» можа адкрыцца аквапарк коштам каля $40 мільёнаў, а праз некалькі гадоў і дэльфінарый.

## Нерэалізаваныя ідэі

Аднак паразуменне з уладамі было ў бізнэсоўца не заўсёды. Цяпер, фактычна, прабуксоўвае ягоная ідэя будаўніцтва некалькіх дзясяткаў паркінгаў у сталіцы.

А некалькі гадоў таму яму, як і астатнім мільянерам, дзяржава навязала стратныя калгасы. Авяр’янаву дастаўся СПК на Вілейшчыне, куды давялося ўкласці каля $6 мільёнаў. З гэтай гісторыяй звязаная яшчэ адна крыўда на чыноўнікаў. На беразе Вілейскага вадасховішча ён прапанаваў пабудаваць першы ў краіне вялікі кемпінг, які б мог прымаць да 10 тысяч турыстаў штогод. Быў нават знойдзены інвестар, гатовы выдзеліць $30 мільёнаў. Але мясцовыя чыноўнікі абламалі гэтую ініцыятыву: маўляў, займайся сельскай гаспадаркай.

## Другое пакаленне Авяр’янавых

Авяр’янаў мае вялікую сям’ю — трох дачок і сына. Пад іх кантроль патроху пераходзяць некаторыя кірункі бізнэсу. Напрыклад, дачка Вікторыя, якая ў 2010 годзе ўвайшла ў спіс «Топ-50 паспяховых і прыгожых лю-дзей Мінска», цяпер узначальвае кампанію «Інтэкс». У яе падначаленні ўсе клубы і рэстараны сям’і. Другая дачка, Наталля, — генеральны дырэктар кампаніі «Авеньютон», якая займаецца продажам адзення на бацькавым аўтарынку. Свой бізнэс мае і жонка мільянера. Цырульніца па прафесіі, Таццяна Авяр’янава валодае дарагім салонам прыгажосці «Лэдзі Гадзіва».

Мільянер уклаў у адукацыю дзяцей немалыя грошы, яны вучыліся ў ЗША і Італіі. Цяпер, атрымаўшы патрэбныя веды па вядзенні ўласнай справы, Авяр’янавы могуць стаць самай масавай бізнэс-дынастыяй краіны.

**Ягор Марціновіч**



Юрый Авяр’янаў з дачкой Натальляй.



Таццяна Авяр’янава, уласніца салона «Лэдзі Гадзіва».




18-метровы экстрэмальны атракцыён у парку «Дрымлэнд».



Аўтамабілі на Малінаўцы прадаюць ужо амаль 20 гадоў.

**Самыя прыбытковыя беларускія ААТ за 2011 год, $ мільёнаў**

| № | Кампанія | Прыбытак |
|---|---|---|
| 1 | Беларуськалій | 1960 |
| 2 | БелАЗ | 598 |
| 3 | МАЗ | 447 |
| 4 | Гродна Азот | 234 |
| 5 | Гомельтранснафта «Дружба» | 198 |
| 6 | Беларусбанк | 151 |
| 7 | Прыёрбанк | 115 |

**Самыя стратныя беларускія ААТ за 2011 год, $ мільёнаў**

| № | Кампанія | Страты |
|---|---|---|
| 1 | Аліварыя | 5,3 |
| 2 | Рэчыцапіва | 4,5 |
| 3 | Кобрынская птушкафабрыка | 3,1 |
| 4 | Страха (Асіповічы) | 3,1 |
| 5 | Лаўсанбуд (Магілёў) | 2,7 |
| 6 | Мазырпрамбуд | 2,6 |
| 7 | Будаўнічы трэст №14 (Гомель) | 2,4 |

Паводле звестак Міністэрства фінансаў, у пераліку па афіцыйным сярэднім курсе Нацбанка за 2011 год (4623 рублі)

## Сцісла

**Прэзідэнцкі фаварыт адкрыў новы гандлёвы цэнтр**

Кампанія «Тапас» адкрыла на Камароўскім рынку гандлёвы цэнтр «Пасаж». Намеснікам дырэктара ў ёй працуе хакеіст прэзідэнцкай каманды Павел Белы. У канцы сакавіка 2012 года ён быў затрыманы ў падазрэнні вывесці за мяжу $6 мільёнаў, аднак праз некалькі дзён аб’явіўся на свабодзе.

**Універсам «Юбілейны» прадалі**

Адна з самых дарагіх крамаў Мінска, універсам «Юбілейны-92», перайшоў пад кантроль кампаніі НТС, якая валодае сеткай крамаў «Родная старонка». Крама каштавала каля $7 мільёнаў.

**Нафта таннее, паліва даражэе**

Канцэрн «Белнафтахім» аб’явіў пра чарговае, трэцяе сёлета, павышэнне цэн на аўтамабільнае паліва. Кошт бензіну АІ-92 цяпер складае 6 650 рублёў (+350), дызельнага паліва — 7 300 (+350). Пры гэтым цэны ўсё яшчэ ніжэйшыя за іх узровень у Расіі.

ЯМ

# Як пачаць размаўляць па-беларуску?

Парады чалавека, які сам гэта прайшоў. Піша **Аляксей Несцераў**.

Пабачыўшы апошнія вынікі апытанняў пра ўжыванне беларускай мовы, я засмуціўся. Тым не менш, лічу патрэбным падзяліцца сваім досведам маўленчых, нават больш псіхалагічных, практык з тымі, хто адчувае жаданне размаўляць па-беларуску штодня, але пры гэтым страчае тыя ці іншыя перашкоды на сваім шляху. Сам я з дзяцінства часта наведваў сваіх сваякоў у Латвіі, Украіне, працаваў у Еўропе. То бок вакол мяне заўсёды прысутнічалі мінімум дзве мовы. І на падставе ўсяго перажытага я і будую сваю лінію паводзінаў.



**Усе годныя, прыязныя і прыгожыя беларускі цудоўна ведаюць мову і ахвотна на яе пераходзяць.**

## Больш не гавару

Паводле маіх назіранняў, найцяжэй пачаць размаўляць па-беларуску з тымі, хто памятае вас расійскамоўным. Трэба гэты лёд ламаць як найраней. Не трэба пытаць дазволу, тлумачыць, што «цяпер вы ўжо іншы». Гэта ўскладняе працэс. Проста пры наступнай сустрэчы ці то размове ад пачатку пачынайце яе па-беларуску. Хтосьці здзівіцца, хтосьці нават не заўважыць.

— Ты же раньше по-русски говорил!

— Больш не гавару.

Безумоўна, калі кола вашых знаёмых і раней было дастаткова інтэлектуальным, ніякіх праблем тут не будзе, і вас калі і не падтрымаюць, то, прынамсі, паставяцца нейтральна.

Мова ёсць добрым маркерам вашых кантактаў. Той, хто праз мову ад вас адвернецца, ніколі не быў добрым сябрам, а значыць, вадзіцца з ім не варта было і без таго.

## Зрабі сям'ю

Мова таксама — добры фільтр у выбары партнёра.

Усе годныя, прыязныя і прыгожыя дзяўчаты, якіх я ведаю, цудоўна валодаюць беларускай мовай і ахвотна на яе пераходзяць, стараючыся падтрымаць размову. Для дзяўчыны мова — і спосаб прывабіць, і спосаб «адшыць» адначасна. Прычым усё адбываецца на поўным аўтамаце.

Важна разумець: вы не навязваеце сваёй мовы і паважаеце мову суразмоўцы, але хочаце, каб паважалі і вашую.

Калі ў вас узнікае пачуццё віны, што вы не размаўляеце на мове суразмоўцы, гэта падманнае пачуццё. Кожны мае права размаўляць так, як яму зручна, пры ўмове, што вас разумеюць.

Я не кажу, што людзі, якія не хочуць успрымаць вас як беларускамоўнага, нечым горшыя. Проста іхнія каштоўнасці істотна разыходзяцца з вашымі. Наколькі вам патрэбныя такія людзі ў кнізе кантактаў — адкажыце сабе самі на гэтае пытанне.

## Бацькі, урэшце

Сітуацыя з бацькамі трохі інакшая, чым са знаёмымі і сябрамі.

Хіба толькі ў тым, што іх цяжэй адпрэчыць, і, магчыма, у вашай большай залежнасці ад іх. Добра, калі вы ўжо жывяце асобным ад бацькоў жыццём. У такім выпадку нават пры ўзнікненні канфлікту наўрад ці вам гэта пагражае нечым істотным. Вашыя прынцыпы, вашыя мэты жыцця, ваш духоўны рост даражэйшыя. Ва ўсялякім разе, я тут таксама не раю нешта загадзя абмяркоўваць.

Прыміце як устаноўку для сябе: у размове па-беларуску няма нічога звышнатуральнага.

І пачувайцеся пры гэтым абсалютна кангруэнтна, быццам па-беларуску вы размаўлялі ўсё сваё жыццё. Вы не робіце гераічнага ўчынку, вы проста размаўляеце.

Ведайце: урэшце бацькі вас абавязкова падтрымаюць і не дазволяць крыўдзіць іншым агрэсіўным сваякам. Наогул, ваша сям'я — гэта тая сфера, дзе абавязкова трэба пасяліць беларускасць, нават калі за сценамі свайго дома вы будзеце цалкам расійскамоўным чалавекам.

Гэта істотна падвысіць якасць энергіі, якую вы прапускаеце цераз сябе, і дазволіць вам быць значна больш упэўненым у любых іншых сацыяльных сітуацыях.

Увогуле ж, мова — гэта той званочак, калі трэба задумацца: а ці не пачаць мне жыць самастойным жыццём?

## Калегі могуць быць, а могуць не быць

З калегамі праблемы могуць быць, а могуць і не быць.

У кожным закрытым калектыве ёсць істотны плюс — узаемазалежнасць. Вы не можаце самавольна пазбавіцца ад калегаў, але ж і калегі не могуць проста так пазбавіцца ад вас. Давядзецца прымаць вас такім, які вы ёсць. А ў непрацоўны час хай хоць задушацца.

Тут галоўнае — задаць тон і не паступацца прынцыпамі.

Пры ўзнікненні непаразуменняў тлумачце па-расійску, але цалкам «класціся» пад калектыў няма ніякага сэнсу. Калі вы нечага варты як супрацоўнік, то і начальнік вас не выганіць. Самому даражэй будзе.

Зноў жа, я апісваю зусім ужо гранічныя выпадкі. У рэчаіснасці я ніколі не меў праблем з беларускай мовай на працы.

Магчыма, мяне не ўсе любілі, але іншыя, наадварот, станавіліся лепшага меркавання пра мяне і збліжаліся. То бок стаўленне да вас хутчэй за ўсё будзе больш кантрасным. Для мяне гэта лепш, чым старацца спадабацца ўсім запар. І нават тое, чаго я заўсёды хачу. Калі мяне нехта ў калектыве ненавідзіць і скрыгоча зубамі ў сне, для мяне гэта найвышэйшы кайф. І ў прынцыпе, гэта паказнік таго, што вы нечага вартыя.

Не трэба патрабаваць, каб з вамі размаўлялі па-беларуску і давалі толькі беларускамоўныя бланкі і кантракты на подпіс — гэта спосаб нажыць сабе ворагаў. Але абараняць сваё законнае права размаўляць па-беларуску — ваш святы абавязак.

## Кліенцкая праца

Дапусцім, вы не проста працуеце ў нейкім замкнёным калектыве, а вам яшчэ трэба «бакі забіваць» сваім кліентам, каб яны ў вас купілі нейкага тавару. Прызнаюся шчыра, досведу ў мяне тут няшмат. Сам я па-беларуску гандляваў хіба нейкімі б/к побытавымі рэчамі, электронікай. З буйнога, бадай, толькі сваёй машынай, прычым яна сышла першаму ж ахвочаму яе паглядзець, а сама абвестка правісела менш за два дні. Але гэта ўсё C2C (citizen to citizen, грамадзянін грамадзяніну), я ж вяду размову пра B2C (бізнэс грамадзяніну) альбо нават B2B.

Але напэўна ведаю, што ў краме музычных інструментаў, што ў г/ц «Сілуэт», працуе цалкам беларускамоўны прадавец гітар. Прычым працуе ўжо дастаткова доўга. Здаецца, калі б справа не варушылася, яго б ужо даўно звольнілі. Думаю, дзейнічае тут звычайны прынцып: забабоны ўбок.

Не магу не схаваць сваёй радасці, што ўсё часцей у публічных месцах ці па тэлефоне людзі адказваюць ці стараюцца адказаць па-беларуску.

Думаю, імідж беларускай мовы ў апошнія некалькі гадоў істотна палепшаў нягледзячы ні на што.

## Навучанне

У час навучання ва ўніверсітэце я размаўляў на абедзвюх мовах. Але дыплом па тэхнічнай спецыяльнасці пісаў і абараняў па-беларуску. Магчыма, гэта самае годнае, што я зрабіў за ўсе пяць гадоў наведвання той шэрай бетоннай каробкі.

Па ідэі, была рызыка, што мяне наогул «завернуць». Аж не, паставілі найвышэйшы бал і прапанавалі застацца ў магістратуры (ад чаго я ветліва адмовіўся). Карацей, не бойцеся. Паставіць свой лёс на кон і здабыць патрэбны вынік, не здрадзіўшы ідэалам, — вельмі прыемна afterwards.

У школе я размаўляў па-расійску, таму што ў мяне яшчэ не было ні разумення патрэбы, ні жадання размаўляць па-беларуску. Пераехаўшы на час навучання ва ўніверсітэце ў Мінск, такое жаданне ў мяне хутка з'явілася. Я даволі лёгка перайшоў на беларускую мову, ніколі яе спецыяльна не вывучаючы.

## Дзяржаўныя ўстановы і прадстаўнікі ўладаў

Па-мойму, найпрасцейшы выпадак. Права камунікаваць з імі на дзяржаўнай мове гарантаванае Канстытуцыяй. Адсюль і трэба адштурхоўвацца ў канфліктных сітуацыях.

## Што рабіць, калі не стае словаў

Нічога. Старайцеся падбіраць беларускія аналагі, гэта галоўнае. У скрайнім выпадку замяняйце расійскімі, ангельскімі (у пэўных асяродках «пракатвае»). Неба не абрынецца вам на галаў. А практыкаванне мовы — адзіны спосаб яе дасканалення. Немагчыма, толькі чытаючы ці пішучы па-беларуску, навучыцца шпарка і прыгожа размаўляць. За маўленчы апарат адказваюць зусім іншыя часткі мазгоў. Добра, калі з вашага мабільнага тэлефона вы маеце пастаянны доступ да slounik.org. Гэта значыць, што вы можаце папаўняць свой слоўнікавы запас проста на ляту.

## Патэрны паводзінаў

Некаторыя раяць пачынаць пераход да беларускай мовы з ужытку пэўных словаў, такіх як «дзякую», «калі ласка». Я лічу такую практыку заганнай.

Па-першае, у вачах наваколля вы будзеце выглядаць дзіваком, які ведае толькі тры беларускія словы. Па-другое, не зусім ясны далейшы шлях. Калі спакваля павялічваць колькасць беларускіх словаў, то выйдзе трасянка. І наўрад ці вы зможаце на ёй натуральна размаўляць, каб вам было камфортна. Я прапаную адразу пераходзіць на беларускую мову. Хай гэта будзе спярша павольна, але старайцеся размаўляць правільна. Нічога страшнага, ваш суразмоўца пачакае. Перад гэтым можаце патрэніравацца ў інтэрнэце. Цяпер мы маем цудоўную магчымасць для гэтага.

**Галоўнае — задаць тон і не паступацца прынцыпамі »**

Наогул, мая беларускамоўнасць падарыла мне вялікі кош прыемных сітуацый і знаёмстваў, палёгкаў там, адкуль ніколі не чакаў.

Але я цяпер пра сітуацыі менш прыемныя. Вы пазнаяце ў іх сябе і вашых апанентаў. — А колькі каштуе? — По-русски! — Колькі білет каштуе? — 80 тыс.

Выснова: не вядзіцеся на хамства. Я ніколі не пераходжу на расійскую мову, калі гэта просяць зрабіць у грубай форме, а проста працягваю сваю размову ў звычайнай танальнасці.

Калі чалавек паказаў сваю адэкватнасць, я хутчэй нават сам перайду на расійскую проста з павагі да яго.

Хоць звычайна спрабую размаўляць па-беларуску нават з расійцамі. Проста мне гэта ўжо даўно значна прасцей, чым па-расійску. Тыя, хто не з Масквы, цудоўна мяне разумеюць. Нядаўна стрэўшы жанчыну з Ніжняга Ноўгарада, быў агаломшаны колькасцю словаў, якія я лічыў беларускімі, у яе гаворцы. — Паненачка, можна нам рахунак? — ??? — Разлічыце нас, калі ласка. — К+

Выснова: калі вас не зразумелі, не спяшайцеся пераходзіць на расійскую. Гэта сведчыць пра другаснасць для вас беларускай мовы. Любое слова можна патлумачыць сродкамі самой жа мовы.

Трэніруйцеся ў гэтым.

Мне даводзілася вандраваць па месцах, дзе не заўсёды выдатна разумелі ангельскую, а мовы мясцовасці я не ведаў. Даводзілася думаць, як патлумачыць па-ангельску простымі словамі. У сваіх сацыяльных практыкаваннях таксама ўявіце, што расійскай мовы вы не ведаеце.

— Ой, а вы по-белорусски разговариваете? Вы учитель, наверное, белорусского языка или истории? (Чамусьці часта думаюць, што я з гістарычнага факультэта.) — Не, я просты чалавек. Працую інжынерам на фірме. — Ой, как здорово. Вы молодец, что не забываете мову.

І яшчэ (класіка). — А почему вы по-белорусски разговариваете? У нас ведь никто почти не говорит на этом языке. — Мне так падабаецца, так зручней, ямчэй магу апісаць свае думкі. — К+

Выснова: не трэба, як некаторыя, рабіць са сваёй беларускамоўнасці нейкую адметнасць, выдаваць гэта за нейкую барацьбу за светлую будучыню, абгортваць у напышлівыя абалонкі.

## Вы — жывы прыклад

Не трэба гаварыць, што вы размаўляеце па-беларуску таму, што вы беларус. Расійскамоўныя беларусы — таксама беларусы! Не трэба ўсёй гэтай прапаганды. Вы самі сваім існаваннем ужо нейкі прыклад. Усё астатняе — лішняе, яно толькі шкодзіць.

Любіце людзей, спакойна тлумачце ім і не гыркайцеся.

Тады ўсё ў вас будзе добра. Колькі я бачыў агрэсіўных беларускамоўных, якія пастаянна нешта камусьці даказваюць, прыдумваюць крэпкія слоўцы, каб адказаць на кпіны, і самі кпяць з тых, хто не зразумеў там нешта па-беларуску ці не так паглядзеў. Гэта ўсё абаронная рэакцыя ад унутранай несвабоды, комплексаў. Працуйце з гэтым.

Я заўсёды дазваляю людзям глядзець на мяне ўтаропіўшыся, смяяцца з мяне, адказваць на бясконцыя пытанні, як нешта будзе па-беларуску (некаторыя так правяраюць «сапраўднасць»). У мяне гэта выклікае толькі ўсмешку.

Несучы беларускасць без агрэсіі, мы маем больш шанцаў прышчапіць яе сэрцам і душам нашых суайчыннікаў.

**Фотафакт**



PHOTO BYMEDIA.NET

**Другая ракетка свету Вікторыя Азаранка правяла адкрытую трэніроўку для дзетак у Палацы тэніса.**

# Святар не здаў адбіткі пальцаў, яго судзяць

Гэта **трэці святар**, якога судзяць за адмову ад дактыласкапіі.



12 чэрвеня ў Гродне пачаўся працэс па справе святара Свята-Прадцечанскай царквы іерэя Мікалая Гайдука, якога вінавацяць у адмове ад працэдуры дактыласкапіі. Як паведамілі «Нашай Ніве» прадстаўнікі Гродзенскай епархіі, суд перанеслі на 22 чэрвеня, бо на працэс не з'явіліся міліцыянты.

Падтрымаць святара ў суд прыйшло больш за паўсотні чалавек. Усіх у памяшканне не пусцілі, хоць відавочцы кажуць, што там заставаліся вольныя месцы.

Мікалай Гайдук — трэці святар Гродзенскай епархіі, у дачыненні якога распачаты адміністрацыйны працэс за адмову ад дактыласкапіі. Ён сцвярджае, што не адмаўляўся ад дактыласкапіі, але прасіў пачакаць, каб параіцца. Міліцыянты чакаць не сталі і склалі пратакол без яго.

**Сямён Печанко**

# Студэнт стварыў першую беларускамоўную праграму для iPhone




Яна называецца **«Прыказкі Лагойшчыны»**.

Калекцыя прыказак Лагойшчыны ўтрымлівае болей за 1700 выказванняў з тлумачэннем. Стварыў яе 22-гадовы студэнт БДУІР з нікам Dzionis Brek.

«Насамрэч я толькі вучуся рабіць праграмы для айфона, таму яна не вельмі складаная, але з часам я планую ўдасканаліць яе, — кажа стваральнік. — Мне было цікава зрабіць праграму на беларускай мове».

Цяпер аўтар праграмы разам з сябрамі плануе стварыць праект кшталту афішы, аднак падрабязнасцяў пакуль не раскрывае. Адзінае, што ўскладняе сітуацыю — у прадукцыі Apple няма беларускай раскладкі.

**ЮУ**

# «Замест каледжа я скончыў бібліятэкі»

Памёр **класік сусветнай літаратуры** Рэй Брэдберы.

Брэдберы стартаваў у 1953 магутнай антыўтопіяй. У «451 градус па Фарынгейту» ён паспрабаваў давесці да максімальнай хуткасці тое паскарэнне жыцця, якое назіраў у ЗША ў 1950-я. Людзі перастаюць чытаць, не маюць часу спыніцца і задумацца, становяцца рабамі тэлебачання, рабамі забаваў.

Брэдберы, напэўна, было цікава назіраць за сучаснай інтэрнэт-цывілізацыяй. За тым, у якой частцы справудзіліся яго прагнозы. Зрэшты, хто ведае, якім быў бы свет без папярэджанняў, кшталту «Фарынгейта».

«451 градус па Фарынгейту» быў упершыню апублікаваны, дарэчы, у часопісе «Плэйбой» і адразу зрабіў Брэдберы славутым.

«Замест каледжа я скончыў бібліятэкі», — казаў Брэдберы. Усё жыццё пасьменнік кахаў адну жанчыну — Маргарэт. Яны пажаніліся ў 1947. Маргарэт некалькі гадоў шмат працавала, каб Рэй мог неадрыўна пісаць. Яны разам пражылі доўгае жыццё, выхавалі чатырох дачок.



Маргарэт памерла ў 2003.

Брэдберы сёлета споўнілася б 92 гады. Па-беларуску выходзілі асобныя апавяданні пісьменніка.

**СМ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Сляза Бога

Зноў абвешчана, што ў Нарачы купацца непажадана, у лепшым выпадку з вялікай асцярогай — нейкі цэркарыёз...

...1953 год, канец мая, мне адзінаццаць з паловай гадоў. З татам і мамай я ўпершыню еду на Нарач. Напярадэдні глядзеў мапу, знайшоў возера, падобнае, як выршыў, на бацькоўскую, з вайны, кабуру, лясы вакол, азёры паменей, балоты, вёска Купа на паўночным беразе, наводдаль — Кабыльнік... Едзем доўга, ужо ноччу, па пясках ды разбітым ушчэнт бруку. У паўсне чую напеўныя, таямнічыя назвы — Ілля, Куранец, Вілейка, Любань, Мядзел... Начуем у лесе. Мужчыны — іх некалькі, ужо і не памятаю хто — раскладваюць вогнішча ды выстаўляюць ахову — ціха, амаль шэптам, гавораць між сабой, што ў тутэйшых лясах неспакойна. Я падбіраю сякеру ля вогнішча, напружана ўглядаюся ў густую цемру паміж соснамі, потым засынаю...

Раніцай у вочы хлыне невыказная, немагчымая сінь.

Хто б забыў гэтую сінь?!

...Па беразе цягнуцца развешаныя на драўляных драбінах сеткі, паветра прасякнутае ранішняй прахаладай і азёрным пахам рыбы, пачутым упершыню. Бацька кліча мяне да вады, я ўваходжу ў яе і нечакана правальваюся ў ледзяную ямку, адкуль нейкая таямнічая падземная сіла бурліць фантанчыкамі пяску. Потым яшчэ, яшчэ... «Крынічкі», — тлумачыць бацька, нахіляецца, зачэрпвае ваду падабраным на беразе драўляным каўшом і прагна п'е, нібыта ўсё жыццё пакутаваў ад смагі. Потым працягвае коўш мне...

Хто б забыў смак гэтай вады?!

...З узлеску на ўзвышшы відаць Купу, яе саламяныя, а дзе-нідзе са старой драніцы, стрэхі. І вось мы ўжо спускаемся ўздоўж брукаванай шашы праз масток над празрыстым струменем да Мацеевай, амаль на беразе, хаты. На дварышчы хударлявы мужчына ў надарванай прапацелай кашулі прыладжвае да каня хамут. «Тафіля! — кліча ён, паразмаўляўшы з бацькамі. — Тафіля! Глухаватая яна, прабачце...» З размовы я чую нешта пра калгас, які забраў каня, але пакінуў яго Мацею, каб даглядаў.

## У вочы хлыне немагчымая сінь

«Вось, будуць у нас жыць», — крычыць Мацей Тафілі проста ў вуха. Маўклівая Тафіля шпарка ківае галавой. Пазней я даведаюся, што Тафіля аглухла аднойчы ад п'янага Мацеевага кулака. Але на той момант усе мае думкі — пра каня і човен на беразе.

Конь, шчэрачы зубы і раняючы сліну, перажоўвае жалезныя цуглі, час ад часу па скуры прабягаюць дрыжыкі. Човен трохі гайдаецца на хвалях, чутна, як рыпяць цяжкія драўляныя вёслы, уткнутыя ў дно... «Валюсь, хадзі сюды!» З хаты выкатваецца хлопчык гадоў васьмі. «Бачыш? — Валюсь цягне мяне ўбок і паказвае паўкруглы чырвоны шрам на лбе. — Белка гвазданула, ты ніколі ззаду да яе не падыходзь...» Недзе праз месяц я ўжо тросся, коўзаючыся, на спіне Белкі, трымаючы скручаныя, каб не трапілі пад капыты, лейцы, і штомоцы сціскаючы нагамі яе крутыя бакі... Я ўжо нікога і нічога не баяўся, бо Тадзік, Янек, браты Чэсік і Мечык, старэйшыя і дужэйшыя за мяне, ужо прыладзілі да чорнага чоўна мачту, чорны ветразь з нейкай тканіны, намалявалі на ветразі чэрап, косці і кінулі мяне ў возера аж на «сінім», у глыбіню. Я бачыў, як імкліва набліжалася дно, але чамусьці заставалася недасяжным. Я ведаў, што зараз патану, але чамусьці быў упэўнены, што мяне выратуе, выштурхне з сябе празрыстая да дна глыбіня...

Хто б забыў гэту крынічную глыбіню?!

...Нам здаецца, што створанае Богам даўжэй за чалавечае жыццё. Але чаму майго жыцця, нават незавершанага, хапіла на тое, каб зніклі Купа з Мацеевай хатай і Кабыльнік з яго нядзельнымі кірмашамі, нават з назвамі зніклі; каб перасохлі крынічкі па берагах, зацягнуліся граззю чысцюткія струмені, а ў замутнёных сёння нарачанскіх водах пасялілася нейкая брыдотная істота...

...Гады з тры таму, наведаўшы Нарач, я не вытрымаў назіраць бессэнсоўную курортную мітусню і пайшоў да знаёмай крыніцы, мо пашчасціць папіць. Дзе там! Забраная ў бетонныя кольцы, ці жывая яна была пад іржавым замком? «Каб не паганілі, — патлумачыла мясцовая кабета ў белай хустцы, — а так трошкі ціўкае... Прыезджы?» Я спытаў у яе, ці ведае яна што пра Янека, Тадзіка, Мечыка, Чэсіка, назваў прозвішчы. Не, не ведае. Валюсь? Можа, той, што працуе ў пасялковым савеце прыбіральшчыкам?

...Прытуліўшыся да сцяны ў цяньку на ганку, ён, цяжка ўздыхаючы, нешта мармытаў у сне.

З кім размаўляў? Каму на што скардзіўся?

Я прыгледзеўся. Падобны на Тафілін круглы твар, такі ж трохі пляскаты нос. І той жа шрам на лбе, мо не такі ўжо чырвоны.

Будзіць не стаў, сабраўся пайсці, але раптам заўважыў, як выкацілася з-пад вока і затрымалася ў маршчыне на дрэнна паголенай шчацэ празрыстая сляза...

Ці не тая, якую, ствараючы Сусвет, некалі выраніў Бог на твар Беларусі?

А мо тая, з якой Ён пакідае нас назусім...

*kamerton_41@mail.ru*



### Мінін і Пажарскі на Вісле

Калі расейцы і палякі апынуліся ў адной групе чэмпіяната Еўропы, то адразу стала зразумела — будзе горача. На справе так і выйшла. Пасля сустрэчы Расія — Чэхія ў Вроцлаве была бойка фанатаў з польскімі сцюардамі. Расійскіх хуліганаў знайшлі. Яны атрымалі па пяцьсот еўра штрафу, а таксама два гады забароны ўезду на тэрыторыю Польшчы. Перад сустрэчай Расія — Польшча ў Варшаве прайшоў «Расейскі марш», многія прыехалі ў футболках з надпісамі «Мінін і Пажарскі». Самі ж гаспадары прасілі сваіх футбалістаў паўтарыць «цуд на Вісле». Самыя ж разумныя прапаноўвалі проста выпіць пасля гульні разам, незалежна ад таго, хто пераможа.

**ЗП**

Гулец тура

# Раман Шырокаў: герой нашага часу

**Любімы футбаліст** Расіі.

Расейцы ў матчы з Чэхіяй згулялі бліскуча. Можна, канечне, казаць, што гэта хлопцы Міхала Білека гулялі абы-як, але слабых каманд на «Еўра» быць не можа.

Нашы ўсходнія суседзі выглядалі магутна. Чэхія аказалася пераможанай з лікам 4:1. Двума галамі адзначыўся ўраджэнец крывавага асецінскага Беслана Алан Дзагоеў. Але мы спынімся на аўтары пераможнага мяча Рамане Шырокаву.

Такіх гульцоў было шмат на ўсёй «адной шостай частцы сушы» па развале Савецкага Саюза. Тады футбалісты атрымлівалі нямнога, затое шмат пілі і гулялі, травячы байкі пра свае прыгоды, заўзятары іх проста абагаўлялі.

Варта ўзгадаць хаця б нашага брамніка Генадзя Туміловіча. Ён ніколі не хапаў зорак з неба, але быў любімцам публікі. То аўтобус зборнай скрадзе, каб з’ездзіць за «дагонкай», то суддзю пашле на..., а то проста кіне швэдар і сыдзе ў падтрыбуннае памяшканне, не просячы замены.

Сённяшнія футбалісты напусцілі на сябе лоску і гламуру. Яны атрымліваюць шалёныя грошы ў якім-небудзь махачкалінскім «Анжы», маюць шыкоўныя кватэры і машыны. Губляць іх праз п’янку ці няўдала сказанае слова нікому не хочацца. Большымі прафесіяналамі сталі. Гутаркі з майстрамі мяча праходзяць шаблонна і нецікава: «Мы правялі добры матч, дзякуй заўзятарам за падтрымку».

Не дзіва, што людзі, як Раман Шырокаў, проста ўзрываюць медыйную прастору. Шырокаву ўжо 30, але на высокі ўзровень ён выйшаў толькі пяць гадоў таму. Ён нарадзіўся ў падмаскоўным Дзядоўску. «Гулячае» жыццё пайшло гадоў з васямнаццаці», — успамінаў Раман.

Ён не саромеецца расказваць пра «п’яную маладосць», нярэдка здаралася, калі пасля гулянкі футбаліст мог зусім не спаць і ісці на трэніроўку. Калі служыў у войску, то ўцёк на два месяцы ў самаволку, якую яму даравалі. Вядома, такое вытрымлівалі не ўсе. Клубы мяняліся адзін за адным. Прыязджаў на прагляд нават у мінскае «Тарпеда-МАЗ», але нават у Беларусі яго палічылі неперспектыўным.

Далей усё было, як у сучасным расейскім кіно. Сустрэў хлопец Рома дзяўчыну Кацю, і жыццё ягонае пасля гэтага змянілася, перагледзеў ён свае каштоўнасці. З заштатных «Хімак» яго запрасілі ў газпрамаўскі «Зеніт». У той час піцерцаў трэніраваў сённяшні настаўнік зборнай Расіі Дзік Адвакат. Ён і паверыў у Шырокава, нават машыну сваю даў ва карыстацца. Раман галандца болей не падводзіў. Сёння без Шырокава зборную немагчыма ўявіць.



**Раман Шырокаў забіў гол нядаўняму пераможцу Лігі чэмпіёнаў Петэру Чэху.**

Не дзіва, што большасць расійскіх «кузьмічоў», людзей, што глядзяць футбол з півам і чыпсамі ды размаўляюць з целікам, як «Сяргей Юр’евіч Белякоў з Таганрога», герой «Нашы Рашы», бачаць у Шырокаву свайго.

Шырокаў непаліткарэктны. Ён «праславіўся», калі назваў Славакію «калгасам», які Расія абавязкова пераможа. Чужыя каманды ён таксама абражае. Напрыклад, «Спартак» называў «дзюдзямі». А кіраўніцтва гэтага маскоўскага клуба абвінаваціў «у веснавым абвастрэнні».

Фанатаў Шырокаў, як і «кузьмічы», таксама недалюблівае. Аднойчы футбаліст назваў фаната «дэбілам» за палаючы фаер. На Шырокава крыўдзіўся брамнік «Зеніта» Малафееў, калі футбаліст сказаў, што сам бы адбіў такі ўдар, а варатар не змог.

Вядома, ад такіх простых і ясных словаў расійская публіка прыходзіць у захапленне. Яны падаюць на ўрадлівую глебу, бо Шырокаў кажа тое, што думаюць мільёны. Шырокаў — прыклад для многіх людзей з сацыяльнага дна. Яго лёс сведчыць, што пры пэўных абставінах у іх бы таксама магло ўдацца.

**Зміцер Панкавец**

# Як палякі гульцоў па свеце шукалі

За зборную гуляюць людзі, якія **не гавораць па-польску**.

На захадзе ад Беларусі стаўленне да нацыянальнай каманды неадназначнае. Ясна, што большасць заўзятараў зычаць сваёй камандзе ўдачы. Аднак ёсць і такія, што няспынна крытыкуюць яе сённяшні склад.

Легендарны польскі брамнік у мінулым Ян Тамашэўскі гэтак выказаўся пра сваю каманду. «Гэта французскія адкіды. Адкіды, што не спатрэбіліся ў сябе на радзіме. Мне агідна бачыць іх у футболцы зборнай Польшчы, якую носяць сапраўдныя палякі», — сказаў Тамашэўскі.

Крытыку спецыяліста выклікала з’яўленне ў камандзе француза Дам’ена Перкі. Перад гэтым у камандзе з’явіўся яшчэ адзін «француз» Людавік Абраньяк. І калі польскія карані апошняга не выклікаюць сумнення (ягоны дзед Зыгмунт з’ехаў у Францыю ў 1964), то наконт Перкі ніякага пацверджання знайсці не ўдалося.

Справа ў тым, што яшчэ перад пачаткам «Еўра» польская федэрацыя пачала па ўсім свеце пошукі гульцоў, якія б маглі мець польскія карані. Атрымалася знайсці двух «французаў» і яшчэ двух «немцаў». Праўда, некаторыя з іх нават не ўмеюць размаўляць па-польску.

Як і Тамашэўскі, многія мяркуюць, што гэтыя гульцы займаюць на полі не свае месцы, а гуляць павінны дамарослыя футбалісты.

У Беларусі таксама сутыкнуліся з нечым падобным. Некаторыя аматары футбола не хочуць бачыць у майцы нацыянальнай каманды бразільца Рэнана Брэсана.

У хакеі досвед таксама маецца. Некалькі гадоў таму ў Чэхіі быў знойдзены Анатоль Пратасеня. Хлопец нарадзіўся ў Мінску, але сталеў і развіваўся як хакеіст у Чэхіі. Праз нейкі час Пратасеня ўжо вярнуўся ў Мінск і быў загуляны ў зборнай. Тут, праўда, ніхто прэтэнзій не выказваў.

Відаць, не трэба ўжо дзівіцца сённяшняму глабалізаванаму свету. Футбол не можа быць убаку ад гэтых тэндэнцый, таму за Нямеччыну гуляе турак Месут Азіл, а за Чэхію — паўэфіёп Гебрэ Селасіе.

**ЗП**

Фотафакт




**Мікаэла Шэфер, нямецкая мадэль, ды-джэй і скандальная знакамітасць, вырашыла матываваць нацыянальную зборную на Euro-2012. Вядома, яна зрабіла гэта ў сваім стылі.**

Сцісла

### Шаўчэнка: Я памаладзеў на дзесяць гадоў

«Калі б прыдумаў сон сваёй мары, то нічога лепшага б не атрымалася», — прызнаўся культавы ўкраінскі нападаючы пасля перамогі над Швецыяй — 2:1. Шэва забіў два галы на запоўненым кіеўскім стадыёне «Алімпійскі».

### Харваты таксама неспакойныя

Бойкай харвацкіх фанатаў з паліцыяй скончылася сустрэча Харватыя — Ірландыя ў Пазнані. Ахоўнікам правапарадку давялося нават ужыць спецсродкі.

### Іспанцаў спынілі

Італія перарвала 14-матчавую выйгрышную серыю Іспаніі. Матч скончыўся ўнічыю — 1:1. Каб апенінцам троху шанцавала, то маглі б і перамагчы.

### Трансляцыі па-расейску

На жаль, беларусам даводзіцца глядзець гэтае «Еўра» не на роднай мове. Пакуль ніводная трансляцыя не адбылася па-беларуску.

**ЗП**

# Статут вярнуўся ў Беларусь

Цяпер **унікальная кніга** знаходзіцца ў Магілёўскім гістарычным музеі.



Аляксей Бацюкоў (злева) і прадстаўнік «Альпары» Валеры Тарасаў з Статутам.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Маем падставу для гонару: у Беларусь вярнуўся яшчэ адзін нацыянальны скарб. Арыгінальны асобнік Статута Вялікага Княства Літоўскага быў 7 чэрвеня прэзентаваны ў Нацыянальным гістарычным музеі. Па гэтым зводзе законаў, які ў час свайго выдання лічыўся адным з найдасканалейшых у Еўропе, нашы продкі жылі тры ста гадоў — ад XVI да XIX стагоддзя. Парадаксальна, але доўгі час ніводнага экзэмпляра Статута ВКЛ (усяго ў свеце захавалася каля шасцідзесяці асобнікаў трох выданняў 1529, 1566 і 1588) у Беларусі не было. Расцягнулі «госці» з захаду і ўсходу за апошнія стагоддзі.

Статут удалося выкупіць у маскоўскага антыквара за 45 тысяч даляраў. Грошы збіралі ўсёй грамадой: на Статут ахвяравалі беларусы-мецэнаты замежжа, людзі з усёй краіны пералічвалі сродкі на дабрачынны рахунак.

Інфармацыю пра тое, што на адным з інтэрнэт-аўкцыёнаў прадаецца сапраўдны Статут ВКЛ, знайшоў студэнт Андрэй Радкоў. Ён не першы раз арганізоўвае выкуп гістарычных кніг. У мінулыя гады Радкоў уратаваў Метрычную кнігу Ішкальдскага касцёла і Магілёўскі часоўнік XVIII стагоддзя. Ідэю вярнуць на Радзіму Статут падхапіў дырэктар Музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў. Пра акцыю абвясцілі ў СМІ, у банку адчынілі рахунак для збірання грошай на Статут.



**Студэнт Андрэй Радкоў**

не першы раз арганізоўвае выкуп гістарычных кніг. У мінулыя гады Радкоў уратаваў Метрычную кнігу Ішкальдскага касцёла і Магілёўскі часоўнік XVIII стагоддзя.

Першапачаткова трэба было ўнесці заклад у памеры дзесяці працэнтаў ад усёй сумы. І літаральна за два дні да канца тэрміну ўнясення перадаплаты грошы прапанаваў прыватны прадпрымальнік з Магілёва. «Спачатку ён хацеў захаваць інкогніта, аднак я думаю, што варта назваць яго імя — гэта Уладзімір Мардачоў. Ён пачуў пра Статут па радыё, калі ехаў у машыне, і адразу патэлефанаваў мне — ужо праз дзве гадзіны у нас былі чатыры з паловай тысячы даляраў: патрэбная сума, каб унесці перадаплату за Статут. Ужо назаўтра мы адправіліся ў Маскву. Калі б не гэты выпадак, то выкупіць Статут наўрад ці ўдалося б», — кажа Аляксей Бацюкоў.

Астатнюю суму збіралі «ўсёй грамадой». Прыватныя ахвярадаўцы пералічылі на рахунак 76 мільёнаў рублёў. 100 тысяч расійскіх рублёў даў беларус з Расіі Павал Берагавіч, адзін з найбольшых мецэнатаў беларускай культуры. А вырашальную суму — 30 тысяч даляраў — уклала расійская кампанія «Альпары», падахвочаная сваім беларускім прадстаўніцтвам.

«Я вельмі ўзрушаны, бо прысутнічаю на гістарычнай падзеі», — казаў міністр культуры Павел Латушка падчас прэзентацыі Статута ў Мінску. Сімвалічна, што яна адбывалася ў зале Гістарычнага музея, дзе цяпер экспануецца выстава, прысвечаная віленскаму палацу вялікіх князёў літоўскіх. Міністр дзякаваў усім, хто выдаткаваў грошы на Статут: «Мы сабралі 45 тысяч даляраў за два тыдні, і абсалютна відавочна, што, калі б спатрэбілася, сабралі б і ўдвая, і ўтрая болей». Міністр гаварыў «мы», маючы на ўвазе «грамадства», не «дзяржаву» — рэдкі выпадак такога мыслення сярод чыноўнікаў.

Пастаянна Статут будзе экспанавацца ў Магілёўскім гістарычным музеі. Пакуль, як расказаў Аляксей Бацюкоў, кніга захоўваецца ў сейфе ў фондзе музея: «У сейфе створаны ўмовы для захавання старадрукаў, — патлумачыў «НН» Аляксей Бацюкоў. — Тэмпература 17—19 градусаў, вільготнасць 50—55 %. Мы хочам набыць спецыяльную вітрыну з клімат-кантролем, дзе і будзе выстаўлены Статут. Нам вельмі хацелася б набыць яе да 30 чэрвеня — Дня горада — і прэзентаваць як падарунак гораду. Будзе яшчэ адна прэзентацыя Статута — калі ён трапіць у асноўную экспазіцыю».

Бацюкоў не збіраецца спыняцца на дасягнутым. У бліжэйшых планах музея — выкупіць кнігу Казіміра Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі», выдадзеную ў 1650 у Амстэрдаме, што і цэлае стагоддзе была самай грунтоўнай навуковай працай па артылерыі і піратэхніцы ў Еўропе. Каштуе кніга Семяновіча таксама нятанна — 15 тысяч еўра. Бацюкоў кажа, што музей будзе ўдзячны любому, хто мае сродкі і магчымасць дапамагчы ў вяртанні гістарычных помнікаў у Беларусь.

**Сяргей Мікулевіч**

# ААН і Курэйчык працягваюць вайну

за фільм **«Вышэй за неба»**.

За выходныя ён набраў 40 000 праглядаў у інтэрнэце. Прадстаўніцтва ПРААН назвала выкладанне фільма незаконным. Тым часам Курэйчык цешыцца: за выходныя фільм сабраў анлайн больш гледачоў, чым усе стужкі «Беларусьфільма» разам, узятыя за год.

У пятніцу 7 чэрвеня ў сеціве з'явілася пірацкая версія поўнаметражнага фільма «Вышэй за неба». Вакол яго ўжо месяц грыміць скандал — здымачная група не можа атрымаць дазвол на выкарыстанне фільма, а Прадстаўніцтва ААН даказвае, што канчатковы варыянт не стасуецца з пачатковым праектам.

У цэнтры фільма лёс маладога музыкі Мікіты Міцкевіча. Ягоны тата — міліцыянт, ганяе апазіцыю, ну і жыве насычаным міліцэйскім жыццём. А сам Мікіта на адпачынку ў Крыме чапляе СНІД... І жыццё кардынальна змяняецца. У фільме граюць знакавыя для сучаснай Беларусі асобы — Алег Хаменка, Аляксандр Памідораў, Андрэй Хадановіч, Віктар Марціновіч, Зміцер Вайцюшкевіч.

Здымачная група заявіла, што да з'яўлення фільма ў сеціве не мае ніякага дачынення. «Гэта стала для мяне сюрпрызам, — кажа сцэнарыст Андрэй Курэйчык, які цяпер у Парыжы, дзе прэзентуе сваю п'есу «Сапраўдныя». — Відаць, людзі, у якіх была копія фільма, вырашылі, што сітуацыя не можа быць у падвешаным стане».

Фільм актыўна глядзяць анлайн. «За першы ўік-энд тэкога «пракату» фільм набраў 40 000 праглядаў, — кажа Курэйчык. — Між іншым, «Масакру» паглядзелі 13 тысяч чалавек, а «Дасціш фантасціш» — 7300. Атрымліваецца, што «Вышэй за неба» — адзін з самых паспяховых рэлізаў беларускага кіно за ўвесь перыяд Незалежнасці».

Тым часам прадстаўніцтва ПРААН самастойна рыхтуе васьмісерыйную версію «Вышэй за неба». Між тым, здымачная група «Вышэй за неба» супраць паказу серыяльнай версіі стужкі, спасылаецца на Закон аб аўтарскім праве.

ПРААН жа сцвярджае, што здымачная група не мае ніякіх правоў на стужку. І мае да Курэйчыка прэтэнзію, што здымачная група замяніла галоўную тэму фільма — праблема ВІЧ адышла на другі план.

**Юрась Ускоў**

# Кентэрвільскі прывід перасяліўся ў Вілейку

**«Беларусьфільм» стварае** камедыю з элементамі готыкі.

За аснову сцэнара сямейнага фэнтэзі-фільма «Кіндэр-Вілейскі прывід» узятая славутая навела Оскара Уайлда. У фільме пра стварэнне «Дыснэйлэнда» ў Вілейцы здымаюцца Сяргей Журавель, Зоя Белахвосцік і Віктар Манаеў. «Наша Ніва» звязалася з рэжысёрам Аленай Туравай (дачкой рэжысёра Віктара Турава), каб даведацца падрабязнасці.

«Гэта будзе музычная камедыя з элементамі готыкі, — кажа спадарыня Турава. — Мы перанеслі падзеі ў наш час, у Вілейскі раён, дзе збіраюцца пабудаваць дзіцячы парк атракцыёнаў на месцы старой сядзібы. Але ў самой сядзібе жыве прывід. Як і ў Уайлда, мы ўздымаем праблемы бацькоў і дзяцей, сутыкнення старога і новага».

Фільм захавае стылістыку Уайлда. Калі памятаеце, у навеле амерыканец купляе сядзібу, у якой жыве прывід. Калі яго папярэджваюць пра гэта, ён кажа: «Файна, у мяне будзе дом з уласным прывідам!» Вось і персанажы беларусаў імкнуцца зрабіць з прывіда своеасаблівы шоу-бізнэс.

Будуць у фільме і спецэфекты беларускага вырабу.

**ЮУ**

# Стадыёны «Еўра-2012»: чым здзівілі свет Польшча і Украіна

Піша блогер **Darriuss**.

Правядзенне любога буйнога спартыўнага турніру заўсёды звязанае з маштабным будаўніцтвам. Арэны для спаборніцтваў, гатэлі, транспартная інфраструктура. Да пачатку «Еўра-2012» блогер Darriuss расказвае пра восем польскіх і ўкраінскіх стадыёнаў, якім бліжэйшыя тыдні наканавана знаходзіцца ў цэнтры ўсеагульнай увагі.

Без новых стадыёнаў у Польшчы і Украіне было не абысціся. Краіны-суседзі па-братэрску падзялілі фінансава цяжкую ношу: з васьмі неабходных стадыёнаў 4 дасталіся Польшчы, другая ж палова — Украіне. У якасці гарадоў, якія прымаюць «Еўра», былі вызначаныя Варшава, Познань, Гданьск, Вроцлаў, Кіеў, Львоў, Данецк і Харкаў.

## 1. «Данбас-Арэна» (Данецк)

Ва Украіне яшчэ да абвяшчэння месца правядзення «Еўра» вялося будаўніцтва адной з неабходных арэн. Гаворка, вядома, пра данецкую «Данбас-Арэну».

Украінскі мільярдэр Рынат Ахметаў, уласнік газет, заводаў і, магчыма, нават параходаў, уклаў у будаўніцтва стадыёна для свайго ФК «Шахцёр», паводле розных ацэнак, да $400 млн.

За гэтыя грошы ў парку імя Ленінскага камсамола з'явілася суперсучаснае збудаванне, якое ўжо зрабілася новым сімвалам брутальнага пралетарскага Данецка.

Непатрабавальным мясцовым жыхарам атрыманы вынік нагадаў касмічную талерку, што прызямлілася пасярод парку.

У цёмны час сутак стадыён эфектна падсвятляецца, што яшчэ больш узмацняе іншапланетнае ўражанне.



«Данбас-Арэну» ўзвялі яшчэ да пачатку «Еўра».

## 2. «Нацыянальны стадыён» (Варшава)

Калі «Данбас-Арэна» да моманту выйгрышу польска-ўкраінскай заяўкі была ўжо напалову гатовая, то з астатнімі справа ішла нашмат горш.

У Варшаве вырашылі пабудаваць абсалютна новую арэну на месцы старога «Стадыёна дзесяцігоддзя» яшчэ 1950-х гадоў, ператворанага ў 1989 у гіганцкі рынак.

Польскі ўрад выбраў праект гамбургскага бюро Gerkan, Marg und Partner: футбольная арэна на 58,5 тыс. гледачоў з магчымасцю трансфармацыі ў канцэртную пляцоўку.

Па суседстве было запланаванае ўзвядзенне басейна з аквапаркам, гатэля з кангрэс-цэнтрам, чыгуначнага вакзала і станцыі метрапалітэна. Да «Еўра», праўда, паспелі пабудаваць толькі сам стадыён.

У выпадку неабходнасці высоўны дах разгортваецца за 20 хвілін. Напаўпразрыстая мембрана зробленая са шкловалакна здольная вытрымліваць мокры снег таўшчынёй да 18 см.

Збудаванне было скончанае за 3 гады і абышлося польскаму ўраду ў 500 млн еўра.



Варшаўскі стадыён паўстаў на беразе Віслы.

## 3. Baltic Arena (Гданьск)

Другі па ёмістасці польскі стадыён таксама быў пабудаваны спецыяльна да чэмпіянату. Ім стала гданьская Baltic Arena.

Дзюсельдорфскае архітэктурнае бюро Rhode-Kellermann-Wawrowsky прапанавала ў якасці асноўнай мастацкай тэмы для арэны ў партовым Гданьску вобраз бурштыну, якім славіцца Балтыйскае мора.

Будаўнічыя працы працягваліся ўсяго два гады. Дзіўная па нашых мерках аператыўнасць для збудавання такіх маштабаў. Бюджэт праекта — 180 млн еўра.



Гданьская арэна нагадвае вялікі бурштын.

## 4. Гарадскі стадыён (Вроцлаў)

Трэці польскі стадыён — у Вроцлаве — таксама будаваўся спецыяльна да «Еўра». Ахвотных выкупіць назву арэны не знайшлося. Так ён і вядомы да гэтага часу проста як «гарадскі стадыён».

Архітэктары ўжылі да арэны канцэпт «стадыён-ліхтар», што, на іх думку, мае ўдала карэляваць з вобразам Вроцлава як дынамічнага сучаснага горада.

Стадыён абышоўся польскаму ўраду ў 168 млн еўра і здольны мясціць 42 700 гледачоў.

## 5. Гарадскі стадыён (Познань)

Нарэшце, чацвёрты польскі стадыён «Еўра» — у Познані (таксама застаецца проста «гарадскім») — адзіны з усёй чацвёркі, які пабудаваны не з нуля, а ёсць вынікам рэканструкцыі арэны.

Было прынятае рашэнне дадаткова надбудаваць дзве з чатырох трыбун другімі ярусамі, давёўшы агульную ўмяшчальнасць комплексу да 43 300 чалавек.

Усе работы абышліся ў 180 млн еўра, і познаньскі стадыён, такім чынам, стаў першым са здадзеных у краіне пад чэмпіянат.



Стадыён у Познані афарбаваны «ў натуральны колер шоўку».

## 6. «Алімпійскі» (Кіеў)

Фінал «Еўра» адбудзецца ў Кіеве. Нацыянальны спартыўны комплекс «Алімпійскі». 70-тысячнік уяўляе сабой ужо чацвёртую інкарнацыю найбуйнейшага спартыўнага збудавання Украіны.

У 2008 годзе, пасля выйгрышу права на правядзенне «Еўра», украінскі ўрад падпісаў кантракт на рэканструкцыю «Алімпійскага» з усё той жа фірмай Gerkan, Marg und Partner (GMP).

GMP прапанавала па-нямецку простыя і стыльны дызайн. Атрымалася нядрэнна.

Работы па рэканструкцыі стадыёна ў абмежаваных умовах цэнтра Кіева ішлі пакутліва доўга са значным, паводле ўкраінскага звычаю, перавышэннем першапачатковага каштарысу. Урэшце рэканструкцыя галоўнай арэны чэмпіянату і краіны абышлася Украіне ў $500–550 млн.



«Алімпійскі» ў Кіеве: індывідуальнымі сядзеннямі фармуецца абстрактная мазаіка ў колерах нацыянальнага сцяга Украіны.

## 7. «Металіст» (Харкаў)

Яшчэ адным украінскім стадыёнам стаў Харкаўскі спарткомплекс «Металіст». Ён быў адкрыты яшчэ ў 1926 і першапачаткова меў вельмі брутальны выгляд.

У 2007 пачалася перабудова «Металіста», у асноўным вялася на грошы ўладальніка мясцовага футбольнага клуба.

Вакол чашы стадыёна былі ўсталяваныя 24 металічныя апоры, якія падтрымліваюць новы дах арэны. За характэрны выгляд «Металіст» тут жа празвалі «Павуком».



Харкаўскі стадыён яшчэ называюць «Павуком».

## 8. «Арэна Львів» (Львоў)

Нарэшце, апошні стадыён адкрыўся ў кастрычніку 2011 на самай ускраіне Львова. Праект распрацавала венскае бюро Albert Wimmer ZT GmbH.

Хоць будаўнічыя работы пачаліся яшчэ ў лістападзе 2008, але праз нерэгулярнае фінансаванне тэмпы істотна скараціліся, што два гады прыносіла нямала галаўнога болю чыноўнікам УЕФА. Сур'ёзна разглядалася пытанне аб пераносе львоўскіх матчаў у які-небудзь іншы горад.

Будаўніцтва самага маленькага стадыёна «Еўра-2012» (каля 35 тыс. гледачоў) абышлося ўкраінскай казне ў 211 млн еўра.

Складана было чакаць з'яўлення да «Еўра-2012» у не самых багатых краінах кантынента васьмі стадыёнаў-шэдэўраў. Тым не менш, агульны ўзровень архітэктуры турніру досыць высокі.



«Арэна Львів» будавалася даўжэй за астатнія стадыёны.

Фотафакт




Сацыяльнае графіці ў цэнтры Мінска.

# Статут вяртаецца

Чырвона-белыя абшары budzma.org.
Навіны свежыя: наступствы і прычыны...
О! Беларускі дух сур'ёзна перамог!
Статут вяртаецца з палону — да Айчыны!

Усё ж «накормлены» маскоўскі антыквар:
Амерыканскай «зеляніны» — мех і торба.
Збіралі разам. Што яму — купцу — тавар,
Нам — Кніга Продкаў. Наша. Зноў.
І гэта добра.

...Гарыць ад выбуху натхнення галава.
Засеем памяці знявечанай прагалы!
І лепш — законам беларускага ільва,
Чым «праўдай»
псеўдабеларускага шакала...

**Рыгор Шэрда, Мінск**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць дапісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Улада байкоту не баіцца

Некаторыя грамадскія лідары катэгарычна заяўляюць аб байкоце выбараў. Вось толькі хто будзе байкатаваць? Нават калі некалькі дзясяткаў тысяч актывістаў не прыйдуць на выбарчыя ўчасткі — на канчатковыя вынікі гэта не паўплывае. Дык, можа, было б лепш ісці на выбары? Выбарчая кампанія — усё ж такі пляцоўка для агітацыі, доступ да дзяржаўных СМІ. На сустрэчах з выбаршчыкамі кандыдаты маглі б расказаць людзям аб недарэчнасці многіх пастаноў «вертыкальнай» улады, антынародных папраўках у законы, за якія прагаласавалі папярэднія народныя абраннікі, працу якіх можна ацаніць народнай прымаўкай: «Нашы слугі прагнуліся ў дугі». А чаго вартая ўлада, калі нават шчэпкі на сваім падворку селянін не мог спаліць без дазволу прэзідэнта краіны?! Што ж гэта ў нас за законы, якія дазваляюць ілжэсведчанне, на падставе якога народныя суды прысуджаюць людзей да штрафаў і зняволення?! Многія грамадзяне краіны, на жаль, аб гэтым не ведаюць.

Улада, на маю думку, не будзе заклапочана байкотам выбараў. Больш непакоілі б і нервавалі б уладу менавіта праўдзівыя расказы аб палітычным і эканамічным становішчы ў краіне.

**Міхась Спірыдовіч, Іванец**

# Беларуская глыбіня. **Дзеці незалежнасці**

Піша **Павал Севярынец**.

*Мы цяпер дзеці Божыя, але яшчэ не выявілася, чым будзем.*
*I Яна 3:2*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Ровар, новенькі «Бусел» мінскай вытворчасці, мне падаравалі берасцейскія хрысціянскія дэмакраты — каб раз на тыдзень штонядзелі паспяваць у царкву. Увесь астатні час ім карыстаюцца «хімікі», і, каб па п'яні не дабілі ды не згубілі, даводзіцца прызначаць адказнага арандатара з ключыкам — пакуль той не вызваліцца ці не адправіцца ў «зону». Апошнім стаў наймаладзейшы з куплінскіх асуджаных, спрытны 20-гадовы хлопчык. З нашым пакаленнем, generation last, або пераможцаў, як каму падабаецца, ужо ўсё ясна (90-я forever!) — роварам яны карыстаюцца злосна ды на знос — а вось што за пакаленне незалежнасці, выраслае за Лукашэнкам, племя маладое, незнаёмае?..

Хлопчык аказаўся надзіва здольны. Парэпаны, расхлябаны да стогнаў і енкаў ровар падкруціў, змазаў, прыладзіў на багажнік ёмкі кош для грузу... Любата. І праз пару тыдняў на гэтым самым ровары даўся з каменды наўцёкі.

Увогуле, тую моладзь, што сядзіць у куплінскай спецкамендатуры, лёгка ўявіць як вынік аблавы ў сярэднім беларускім горадзе: затрымаць па дварах паўсотні маладзёнаў 18—25 гадоў — і гатовая «хімія». Такія ж, як усе: проста трапіліся. Ад сённяшняй хвалі маладафронтаўцаў — тыя ж 1—25, з тымі ж кароткімі стрыжкамі, мабілкамі ды флэшкамі, аўтаспынамі і грубымі галасамі, панапляпанымі з «кантакту» хвосткімі фразамі і трохі грэблівым стаўленнем да жыцця — іх адрозніване зусім няшмат. Хіба што мова. І вера.

Але для канвойнага ці дзяжурнага з ключамі, народжаных у СССР (што на Акрэсціна, што ў Купліне) і адныя, і іншыя — усё тыя самыя азлобленыя малалеткі, непакорлівае і хударлявае зло, якое не хоча, блін, працаваць і псуе жыццё нармальным людзям.

Ну якой яно волі хоча, гэтае пакаленне, тыпу незалежнасці?

Вось Уладзь Яроменак, вясёлы 22-гадовы хлопец-каталік з Мёраў, душа пілігрымак, адбыў 8 месяцаў турмы за Плошчу, і, вызвалены, ужо паспеў атрымаць нагляд ды 66 сутак за маладафронтаўскія акцыі.

Вось Мікола Дземідзенка, 23-гадовы намеснік старшыні МФ, дарэчы, з тых жа Мёраў, мажны кучаравы асілак, поўны алімпійскага спакою ды ўпэўненай моцы, арганізатар моладзевай кааліцыі «Ігнор-2012», што збіраецца байкатаваць «палаткавыя выбары» — адпраўляецца даседжваць свае 62-я «суткі» за апошні год.

Вось Зміцер Крамянецкі (эмэфаўская мянушка «Крэмень»), 24-гадовы ўдзельнік нашумелай антыкамуністычнай акцыі 7 лістапада, які ўжо паспеў адслужыць у войску... таксама з Мёраў (во прарвала Віленшчыну!) — 70 адседжаных «сутак».

Вось Міхась Мускі з Нясвіжа, 21-гадовы герой з 65-цю «суткамі» з ліпеня 2011-га, гвалтоўна завезены ў вайсковую часць пад Лепелем.

Вось 19-гадовы Павал Сяргей, выключаны за палітыку з Маладзечанскага каледжа, у якога сталіністы адсудзілі 1 млн 897 тыс. рублёў пасля закідвання яйкамі помніка Леніну — больш за месяц на Акрэсціна.

Вось Настачка Палажанка з Мінска, з 14 гадоў у Маладым Фронце, якая мае «сутак» ды «крыміналак» болей, чым палова апазіцыйных лідараў, разам узятых, — як ільвіца, змагаецца за свайго каханага...

І нарэшце, наймацнейшы баец, 22-гадовы маладафронтавец з Жодзіна Раман Васільеў: за апошнія 10 месяцаў — 95(!) «сутак» на дошках, у холадзе і голадзе, рэкорд у нашай найноўшай гісторыі.

Вера і мова... Седзячы разам на Акрэсціна, дамаўляюцца: хто мацюкнуўся — атрымае пендаля. Ты ж маладафронтавец, чуеш!

У Азербайджане, дзе і рэжым падобны, і апазіцыя прыблізна ў гэткім жа стане, што і наша, лічыцца, што палітыка — справа надзвычай сур'ёзная, і займаюцца ёй мужчыны 30—50 гадоў. Маніфестацыі ў Баку — ідуць тысячы здаровых мужыкоў, ад скураных куртак ды пінжакоў чорна. І нашых дзеячаў з гідлівасцю, не менш выразнай за каўказскі акцэнт, пытаюцца: а слухай, чаго за вас ваююць вашыя дзеці?

Вось ужо 15 гадоў незалежнасці МФ трымае фронт вулічнага супраціву — акцыямі, «лятучымі пікетамі», бел-чырвона-белымі сцягамі, «крыміналкамі» ды асабістай самаахвярнасцю. Не паспела схлынуць хваля «хлопцаў Плошчы» — і вось ужо накатвае новая. Тыя, хто гатовы трымаць малады фронт, пакуль дарослыя дзядзькі за іхнімі спінамі мычаць, жуюць соплі і высвятляюць адносіны крыўдліва, быццам падлеткі.

Вакол чаго яднацца ім, старэйшым? Ды вакол падтрымкі маладафронтаўцаў. Каваленкі. Васьковіча. Бяляцкага. Статкевіча. Дашкевіча. Лобава. Усіх тых, хто прымае ўдар на сябе, каб рэжым не ўварваўся на кухні.

Сустракаць моладзь з «сутак» ды адседак, збіраць поўныя залы на суды, дапамагаць бацькам і даводзіць: не ўшчуваць такіх дзяцей трэба, а ганарыцца імі!

У 2007-м, калі Дашкевіч ды Фінькевіч сядзелі па турмах, а колькідзясят маладафронтаўцаў хадзілі пад «крыміналкамі», найвастрэйшыя акцыі МФ праводзіла дзявочая «брыгада пантэраў» — Кася Галіцкая, Люся Атакулава, Кася Краснова.

Цяпер — зноў хлопцы. «Хоць ёсць за каго замуж выходзіць беларусачкам», — важка падсумоўвае Мікола Дземідзенка.

...А хлопчыка, што ўцёк на партыйным «Бусле», злавілі. Ровар застаўся ў лесе. У дзяжурцы запыталі, ці буду пісаць заяву — усё-такі крадзеж. Для шустрыка — лічы, адразу турма. Пісаць, вядома, не стаў.

Ровар адшукалі і прывезлі сябры. Спраўны, колы круцяцца. Увечары дзіця незалежнасці прыйшло з прабачэннямі. Прыгнечанае — праз сваю дурную вандроўку цяпер сядзі, чакай выраку начальства. Але павітаўся па-беларуску. І напрыканцы размовы папрасіў Біблію.

Спакусаў ды выпрабаванняў на долю дзяцей незалежнасці хопіць. Але яны ўжо адчуваюць нешта такое, што прымушае іх бацькоў апускаць вочы і пераводзіць гутарку на дробязі.

Зразумець іх, прыняць іх — спрытных і разгубленых, пакінутых і адчайных, заблытаных у сацыяльных сетках і такіх моцных — здольны толькі Той, Хто аддаў за нас Свайго адзінага ўлюбёнага Сына. Бой-Айцец.

*Куплін*

**Вакол чаго яднацца старэйшым? Ды вакол падтрымкі палітвязняў »**

# Пачалося аднаўленне лютэранскай кірхі ў Гродне

**Германія дапамагае** аднаўляць храм Святога Яна.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

10 мая пачалася рэстаўрацыя лютэранскай кірхі Святога Яна ў Гродне. Будынак чакаў абнаўлення роўна сто гадоў — ад 1912-га. Асноўным спонсарам рэстаўрацыі стала Міністэрства замежных справаў Германіі і нямецкая лютэранская царква. Без гэтай дапамогі Беларусь магла б страціць яшчэ адзін архітэктурны помнік.

«Стан кірхі не тое каб зусім катастрафічны, але набліжаецца да таго, — кажа пастар Уладзімір Татарнікаў. — Грунтовыя воды размываюць падмурак, ад таго з'яўляюцца расколіны. Сцены кірхі заўжды вільготныя».

Пашкоджанні з'явіліся ў 1950-я, калі ў будынку месціўся абласны архіў. За савецкай уладай ніякай гаворкі пра дзейнасць кірхі і быць не магло.

## Шлях ад таверны да храма

Гісторыя храма бярэ пачатак ад 20 верасня 1793, калі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падарыў лютэранскай супольнасці будынак былой таверны, які можна было выкарыстоўваць для малітваў — трохпавярховая кірха дабудоўвалася цягам стагоддзя. Ад пачатку служылі ў ёй на нямецкай мове — у Рэчы Паспалітай тады жыло багата немцаў-лютэранаў. У 1843 кірха была дабудаваная, а побач з ёй з'явіліся лютэранскія могілкі, евангелістычная школа, дом пастара. У другой палове XIX стагоддзя лютэранская супольнасць вырасла ў колькасці, за яе кошт і адбываліся працы па ўдасканаленні кірхі. У 1873 з'явілася званіца з гадзіннікам, а ў 1912 годзе будынак набыў завершаны выгляд, аднавіць які і мусіць цяперашняя рэстаўрацыя.

Што вельмі крыўдна, у Беларусі не засталося дакументаў, па якіх можна было б аднавіць колішняе ўбранства. Падчас нямецкай акупацыі кірха працавала. Магчыма, архівы тады вывезлі ў Германію, спадзяецца пастар, складаючы запыты ў Берлін і Рыгу.

Тое, што храм захаваўся ў савецкі час, можна лічыць дзівам. Царкоўныя прыбудовы былі раздадзеныя пад жыллё мясцовым людзям, ацалелую мэблю сканфіскавалі на карысць савецкіх чыноўнікаў. На месцы могілак зрабілі дзіцячы садок і пабудавалі некалькі жылых дамоў... У будынку ж самой кірхі размясцілі архіў.

«Калі б тут быў склад гародніны, то будынак бы дакладна не вытрываў, — працягвае Татарнікаў. — Што тычыцца аргана і мэблі, то іх, паводле дакументацыі, перадалі ў філармонію. Ёсць такі прыгожы на выгляд дакумент пра перадачу рэчаў. Аднак знайсці іх так і не ўдалося».

Рэч у тым, што ад 1944-га да 1950-га года кірха была безгаспадарнай — тады ўсё і расцягнулі.

## Кірху «панізілі», бо была вышэйшай за сабор

Новая гісторыя храма пачынаецца з 1995, калі будынак вярнулі лютэранам. Тады ж на грошы фонду Густава Адольфа была праведзена рэстаўрацыя. Інтэр'ер кірхі мае класічны для лютэранскага храма аскетычны выгляд, аднак экстэр'ер горшаў з кожным годам. Тым не менш, лютэранская супольнасць у Гродне працягвае расці і гуртавацца вакол кірхі — не так даўно быў адноўлены лютэранскі вясельны абрад. Кірха Святога Яна — адзіны дзеючы лютэранскі храм у Беларусі.

Доўгачаканая рэстаўрацыя прымеркаваная да стагоддзя з таго моманту, калі кірха набыла канчатковы выгляд. Як расказвае спадар Татарнікаў, яна магла б распачацца і раней, аднак будынак кірхі не належыць лютэранскай супольнасці, а знаходзіцца ва ўласнасці аблвыканкама. Зрэшты, апошні і дапамог нямецкаму боку ў вырашэнні бюракратычных пытанняў.

Самым важным пунктам рэстаўрацыі будзе вяртанне на званіцу шпіля з крыжам, які яшчэ можна ўбачыць на фотаздымках 1940-х. Кажуць, пасля кірху «панізілі», бо яна здавалася вышэйшай за Пакроўскі сабор.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Пастал Татарнікаў і пасол Вайль падчас урачыстасці.

## Рэстаўрацыя за два сезоны?

Напярэдадні ўрачыстай цырымоніі па Гродне пранесліся шквал і невялікі тарнада, аднак ранак выдаўся сонечным і цёплым. На ўрачыстую службу, апроч пасла Германіі Крыстафа Вайля, прыехалі амбасадары Францыі і Ірландыі, а таксама прадстаўнікі розных канфесій.

Крыстаф Вайль упершыню ўбачыў кірху ў 2010, падчас свайго першага візіту ў Гродна — тады Уладзімір Татарнікаў спецыяльна для нямецкай дэлегацыі правіў службу на нямецкай мове. Спадара Вайля вельмі ўразіў бядотны стан храма, як і аналагічны стан мясцовай сінагогі. Тады і пачаўся працэс аднаўлення.

Спадар Вайль бачыць у супольнай беларуска-нямецкай рэстаўрацыі прыклад таго, што Еўропа застаецца адзіным цэлым, нават нягледзячы на пэўныя непаразуменні паміж краінамі. Ён пералічыў людзей, якія спрыяюць рэстаўрацыі: гэта і старшыня Гро-дзенскага аблвыканкама Сямён Шапіра, і кіраўнік ведамства федэральнага канцлера ФРГ Рональд Пофала. Значную суму грошай перадала ў рэстаўрацыйны фонд рэдакцыя газеты «Вэстдойчэ альгемайнэ цайтунг», а царква Хрыста ў Гановеры супольна з фірмай «Кантынент» даставіла ў кірху 22 лавы. Старшыня нямецка-беларускага эканамічнага клуба Клаўс Баер шукае для храма арган, а прадпрымальнік Освальд Хонэн, які працуе ў Мінску, будзе на грамадскіх пачатках каардынаваць будаўнічы працэс. Згодна з праектам, рэстаўрацыя мусіць заняць два сезоны.

«Я рады, што сёння ў нашай Еўропе, якая зрастаецца ў адно цэлае, мы без нацыянальнай высакамернасці зноў можам звярнуцца да сваёй агульнай культурнай, філасофскай і рэлігійнай спадчыны, каб сумесна будаваць лепшую Еўропу для будучых пакаленняў» — зазначыш пасол Вайль.

**Юрась Ускоў**

**Матэрыял зроблены пры садзейнічанні Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія**

## СПОРТ

### Гандбол. Чэмпіянат свету

**17 чэрвеня ў Мінску** пройдзе матч у адказ плэй-офу Чэмпіяната свету па гандболе сярод мужчынскіх зборных Беларусі і Славакіі. Пачатак а 17-й. Першая гульня прайшла ў Кошыцах 9 чэрвеня і скончылася з лікам 26:24 на карысць беларусаў. Цана білетаў — 25—45 тыс. рублёў.

### Баскетбол — дзяўчаты

**13 чэрвеня ў Мінскім палацы спорту** пройдзе кваліфікацыйны матч адборачнага турніру Чэмпіяната Еўропы сярод жаночых зборных. Беларуская зборная сустрэнецца з венгерскай. Пачатак а 19.30. Цана білетаў — 25—45 тыс. рублёў.

## КАНЦЭРТЫ

### Пётр Мамонаў

**19 чэрвеня а 19-й у Re:public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт Пятра Мамонава. Лідар маскоўскага андэграўнда 80-х, заснавальніка гурта «Звуки Му» і стылю «руская народная галюцынацыя» пакажа ў Мінску сваю новую праграму «Пётр Мікалаевіч з трэцяга пад'езда».



### Х'ю Лоры ў Мінску

**22 чэрвеня ў Палацы Рэспублікі** — канцэрт Х'ю Лоры. Выканаўца ролі доктара Хаўса — яшчэ і музыка-блюзмэн. Яго дэбютны альбом Let Them Talk заняў першыя радкі брытанскага хіт-парада і трапіў у Hot 100 музычнага часопіса Billboard. Пачатак а 20-й.

### Дзень народзінаў Віктара Цоя

**21 чэрвеня ў клубе «Цэнтр» (Кастрычніцкая пл., 1)** — канцэрт, прысвечаны дню народзінаў Віктара Цоя. Пачатак а 19-й.

### Apple Tea

**13 чэрвеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт джазбэнда Apple Tea. Пачатак а 19-й.

### Рокаш

**14 чэрвеня а 19-й у «Графіці»** — фолк-рок. Зайграе гурт «Рокаш». Пачатак а 19-й.

### Музыка Ісаака Шварца

**19 чэрвеня у Малой зале імя Р.Шырмы Белдзяржфілармоніі** — вечар музыкі Ісаака Шварца (1923—2009), савецкага класічнага і папулярнага кампазітара, аўтара музыкі да фільма «Белае сонца пустыні». Пачатак а 19-й.

### Французская камерная музыка

**13 чэрвеня ў Малой зале імя Р.Шырмы Белдзяржфілармоніі** — вечар французскай камернай музыкі. Прагучаць творы М.Равэля, С.Франка, А.Маньяра. Пачатак а 19-й.

## ІМПРЭЗЫ

### Мірскі рэнесанс

**16 чэрвеня а 15-й у Мірскім замку** пачнецца вялікая канцэртная праграма «Мірскі рэнесанс»: жывыя выступы артыстаў тэатра старадаўняй культуры «Яварына», музыкаў мадэрн-барока Alta Mente і фолк-рэнесансу «Стары Ольса».

### Экслібрыс

**14 чэрвеня ў 18.30 у мастацкай галерэі твораў Леаніда Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49)** адбудзецца ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання ўдзельнікаў конкурсу маладых пісьменнікаў «Экслібрыс».

У праграме: выступы пераможцаў, фіналістаў і сябраў журы, уручэнне дыпломаў.

### Купалаўскія вакацыі

**14 чэрвеня а 18-й Літаратурны музей Янкі Купалы** запрашае творцаў узняць удзел у трэцім адборачным этапе конкурсу аўтарскай песні «Купалаўскія вакацыі». Спяваюць Таццяна Беланогая, Раман Яраш, Таццяна Грыневіч-Матафонава, Алеся Сівохіна, Алесь Емльянаў і гурт «аРБа».

### Полацк. Гонар вякоў

**18 чэрвеня а 17-й у Гістарычным музеі (Маркса, 12)** адбудзецца прэзентацыя кніг, прысвечаных 1150-годдзю Полацка,— фотаальбома «Полацк. Гонар вякоў» Сяргея Тарасава, «Войска Полацкага княства ад часоў Рагвалода да эпохі Усяслава Чарадзея» Мікалая Плавінскага.

## ВЫСТАВЫ

### Расійскае золата

**Да 14 верасня ў Гістарычным музеі** працуе выстава «Каштоўныя ўзоры. Золата ў помніках дэкаратыўна-выяўленчага мастацтва і пісьменства». На выставе прадстаўлена звыш 130 прадметаў са збораў расійскага Дзяржаўнага гістарычнага музея (Масква), у аздабленні якіх выкарыстоўвалася золата.

### Выстава Міколы Купавы

**Да 15 чэрвеня ў «Кніжным салоне» (Калініна, 5)** працуе выстава твораў Міколы Купавы Ad librum, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Я.Купалы і Я.Коласа.

### Беларускі абстракцыянізм

**Да 19 чэрвеня ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Беларускі абстракцыянізм» — першая маштабная выстава, прысвечаная абстрактнаму мастацтву Беларусі. Паказаныя творы ад 1920-х гадоў да цяперашняга часу.

### Веткаўскія абразы XVIII—XIX стст.

**Да 23 ліпеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Веткаўскія абразы XVIII—XIX стст. у шытых бісерных акладах». На выставе паказана 50 прадметаў: абразы ў акладах, асобныя бісерныя аклады на абразы.

### musik + X

**Да 30 чэрвеня ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41)** працуе выстава «musik + X». Гэта фестываль, дзе кожны аматар сучаснай музыкі знойдзе штосьці на свой густ. У чатырох залах прадстаўленыя чатыры музычныя напрамкі: поп-музыка, індзі-рок, хіп-хоп ды тэхна, а таксама звязаная з імі атрыбутыка. Галоўныя элементы выставы — вялікія праекцыі, дзе «грае музыка».

## ТЭАТРЫ

### 13 чэрвеня

**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»

### 14 чэрвеня

**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Юнага гледача** — «Дарога на Віфлеем»

### 15 чэрвеня

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»

### 16 чэрвеня

**Лялек** — «Кот у ботах»

### 17 чэрвеня

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Купалаўскі** — «Офіс»

### 18 чэрвеня

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 19 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 20 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

### 21 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

## КІНО

### Жыраф на дроце

**Мадагаскар-3 (Madagaskar-3)**
ЗША, 2012, каляровы, 3D, 93 хв.
**Рэжысёры:** Эрык Дарнел, Том МакГрат, Конрад Вернан
**Жанр:** Анімацыйныя прыгоды для дзяцей
**Адзнака:** 6,5 (з 10)

Леў Алекс, зебра Марці, жырафа Мелман і бегемоціха Глорыя, уцякаючы ад паліцэйскай ветэрынаркі, далучаюцца да вандроўнага цырка.

Многія працягі слабейшыя за першыя серыі. «Мадагаскар-3» — выняткам. Меланхалічная жырафа, цікаўная зебра, разважлівы леў і рамантычная бегемоціха паддаюць жару. Нікуды не схавацца ад мітуслівых пінгвінаў і шымпанзэ, што выдае сябе за караля Версальскага. Але ў трэцім «Мадагаскары» з'явіліся і новыя героі. Расейскі тыгр Віталій, які залівае чорную меланхолію баршчом, дурнаваты цюлень, няўклюдная мядзведзіха на роварах і — хіт сезона — драпежная паліцыянтка, якая хоча здабыць галаву льва Алекса сабе ў паляўнічую калекцыю.

Мультфільм — суцэльны цыркавы атракцыён, нястрымны і яскравы. Паветраныя сланы, мопсікі-гоншчыкі, ільвы пад купалам цырка, каляровыя шарыкі. Трохвымерны экран (а фільм намаляваны ў 3D) заліваецца феерверкамі, мігцінь фіялетавае святло. Дзеці натанчацца ўдосталь.

**Андрэй Расінскі**







### Цукеркавы фэст

16 чэрвеня з 14-й у мястэчку Івянец пачнецца Цукеркавы фэст. Вас чакаюць пошукі івянецкага скарбу і таемнай цукерыны шчасця, віктарыны, дэгустацыя цукерак, майстар-класы народнага кухарства. А таксама рыцарскія бойкі і змагарныя пагоні, шляхецкія пацехі, сярэднявечныя латарэі, конна-спартовае шоу ўланаў, вогнішча і фаер-шоу… Даведкі па тэл.: (029) 270-41-78, (025)698-75-87, (017)216-19-76, ivkon.by/festivals.



### Опера і арт у замку Радзівілаў

**Ад 22 да 24 чэрвеня** ў Нясвіжскім замку пройдуць вечары Вялікага Тэатра Беларусі.
**22 чэрвеня а 21-й** — «Яўгеній Анегін».
**23 чэрвеня а 15-й** — канцэрт «Ты словы свае прысвяціў Беларусі» з твораў на словы Уладзіслава Сыракомлі.
**23 чэрвеня а 21-й** — «Кармэн-сюіта. Балеро».
**24 чэрвеня а 20-й** — Гала-канцэрт зорак Вялікага тэатра.
**Ад 30 чэрвеня да 1 ліпеня** ў Нясвіжы — арт-фэст «Тэатр Уршулі Радзівіл».
**30 чэрвеня а 15-й** — «Леаніды не вернуцца на зямлю».
**30 чэрвеня а 21-й** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл».
**1 ліпеня а 15-й** — «Паланэз на развітанне».
**1 ліпеня а 21-й** — «Пане Каханку».

# Экстрэмальная Валожыншчына

**Падарожжа** аднаго дня.

Лета — час адпачынку і падарожжаў. Але каб атрымаць незабыўныя ўражанні, неабавязкова ехаць у Парыж ці на пляжы Італіі. «Наша Ніва» прапануе аўтамабільныя маршруты па Беларусі для тых, каму не сядзіцца дома. Першае падарожжа — паўднёвая і цэнтральная Валожыншчына.

На працягу дня вы наведаеце самую высокую кропку Беларусі, пабачыце велічныя касцёлы Івянца, закінуты санаторый, рэшткі панскага палаца, а таксама захапляльны падвясны драўляны мост.

## Пачатак на вышыні

Асобнага падарожжа гара Дзяржынская (Святая) не заслугоўвае, але чаму б не пад'ехаць да яе па дарозе? Выехаўшы з Мінска ў гродзенскім накірунку (М6), зварочваем на трасу Р65 у бок Дзяржынска, а праз 15 км, каля Скірмунтава, на дарогу Н8243. Па шчырасці, памятны знак на невялікім узвышэнні не ўражвае, ды і гары асабліва не бачна. Побач — панылая трактарная станцыя і ніякага намёку на турыстычную інфраструктуру. Тым не менш, тутэйшыя 345 метраў лічацца самым высокім месцам Беларусі.

Савецкая ўлада скарысталася вышынёй, размясціўшы па суседстве радыёлакацыйную станцыю. Праўда, людзі пагаворваюць, што найвышэйшае месца — якраз-такі станцыя. Так ці інакш, але мясціны насамрэч прыгожыя. У ясныя дні з узгоркаў можна ўбачыць нават спальныя раёны Мінска, а гэта — ні многа ні мала — 20 кіламетраў адлегласці!

## Каталіцкі цэнтр

Вярнуўшыся на дарогу, рушым проста аж да Івянца. Пры ўездзе ў мястэчка ўважліва глядзіце налева! Вас чакае трохпавярховы дом, на даху якога гіганцкімі літарамі выведзена «Жыве Беларусь!»

У абавязковай экскурсійнай праграме гэтага пяцітысячнага гарадскога пасёлка — два касцёлы. Першым вам сустрэнецца чырвоны касцёл святога Аляксея, названы ў гонар сына апошняга імператара Расійскай імперыі. Яго пабудавалі ў пачатку ХХ стагоддзя ў папулярным тады неагатычным стылі. За савецкімі часам яго напаткаў не самы гаротны лёс — памяшканне выкарыстоўвалася як філіял-склад Нацыянальнай бібліятэкі (тады Ленінскай).

Другому касцёлу, Міхаіла Арханёла, пашанцавала менш. Падчас існавання СССР у храме знаходзіліся крама, засолачны цэх, а пасля і эксперыментальна-даследчая вытворчасць. Гэты касцёл старэйшы, ён быў пабудаваны ў сярэдзіне XVIII стагоддзя ў стылі віленскага барока. Побач знаходзіўся манастыр францішканцаў. Цяпер, калі архітэктурны комплекс даведзены да ладу, у яго пастаянна прыязджаюць каталіцкія экскурсіі.

Падарожжа можна прымеркаваць да Цукеркавага фэсту ў Івянцы, які адбудзецца 16 чэрвеня. Падчас яго адбудуцца тэатральнае прадстаўленне, рыцарскія бойкі, пошукі скарбу і, вядома ж, дэгустацыя цукерак мясцовай вытворчасці. Пачатак а 14-й на плошчы Свабоды ў Івянцы.



Касцёл святога Аляксея.

**Кошт паездкі**

Бензін — 75 000 рублёў з усіх.

Музей (Івянец) — 4 000 рублёў.

Абед — каля 50 000 рублёў.

## Свецкае жыццё Івянца

Адзіны ў мястэчку музей раней быў прысвечаны сумнавядомай асобе Фелікса Дзяржынскага, які нарадзіўся за 15 км ад Івянца. Цяпер экспазіцыя прысвечана народнай культуры і рамёствам, а рэчы лідара чэкістаў «пераехалі» ў радавы маёнтак Дзяржынава.

Найлепшыя івянецкія сувеніры — вытворчасць мясцовага керамічнага завода. Везці адсюль збаны і іншы посуд можна мяхамі.

Каб пад'есці ці нават паабедаць, варта зайсці ў недарагое прыватнае кафэ «Вай-Фай» на вуліцы 17 Верасня. Можна паспрабаваць сапраўды злавіць у ім бесправадны інтэрнэт, у гонар якога і названая кавярня. Атрымліваецца, праўда, не ва ўсіх.

## Руіны новага часу

Ежа ежай, а душа патрабуе прыгодаў. Што ж, надышоў іх час. Пераехаўшы за касцёлам Міхаіла Арханёла Волму, зварочваем на другім павароце направа і кіруемся дарогай Н8254 у бок Сівіцы і Рудні. Ехаць нядоўга, усяго 10—12 км, але пераважна па гравійцы. Калі навігатар прапануе зрэзаць дарогу і адправіцца ляснымі сцежкамі, лепш праігнараваць яго парады. Зварочваць направа трэба на прыпынку «Санаторый «Лясное», праз некалькі кіламетраў пасля Сівіцы.



Палац Тышкевічаў.



Санаторый «Лясное».



Падвясны мост.




Неўзабаве сярод дрэваў з'явіцца вежа вышынёй з дзесяціпавярховы дом і сама санаторыя. Знайсці ў ім сляды жыцця складана. Пасля чарнобыльскай катастрофы 1986 года санаторый Міністэрства сувязі на мяжы Налібоцкай пушчы закрылі праз высокі ўзровень радыяцыі.

На паркоўцы, абазначанай аранжавым ад іржы знакам, можна пакінуць машыну і рушыць у пешы абыход. Праўда, уваход у будынак, які з кожным годам абвальваецца ўсё мацней, закрыты. На дзвярах вісіць сігналізацыя, а ў суседнім дамку жыве ахоўнік. Тым не менш, экстрэмалы час ад часу прабіраюцца ўнутр санаторыя.

## Запаведнік Тышкевічаў

Пафатаграфаўшы развалiны 1970-ых, можна пераходзіць да больш старажытнейшых руінаў. У 200 метраў ад санаторыя, бліжэй да ракі, знаходзяцца рэшткі трохпавярховага палаца Тышкевічаў. Летняя сядзіба была пабудаваная ў запаведніку ў канцы XIX стагоддзя. А дрэвам вакол палаца ажно 200—400 гадоў! Шанцаў на яго аднаўленне ўжо фактычна не засталося, палац «парадніўся» з прыродай настолькі, што ўсярэдзіне яго выраслі дрэвы.

Яшчэ 150—200 метраў да ракі, і можна апынуцца на падвясным драўляным мосціку. Ён выглядае хліпкім — раскачваецца ад кожнага парыву ветру, — але ад гэтага яшчэ больш рамантычным. Па ўсёй Беларусі засталося не больш за пяць такіх мастоў!

## Палац сілавых структур

Каб не вяртацца назад у Мінск той самай дарогай, рушым на Валожын. Дарога абы-якая, але пацярпець трэба каля 7—8 км. Галоўнае, павярнуць направа за Яцкава-Замоснымі і не працягнуць свае пакуты яшчэ на доўгія 10 км.

Што варта паглядзець у раённым цэнтры? Валожын — адзін з нямногіх гарадоў, у якім засталося столькі помнікаў класіцызму. Іншыя архітэктурныя стылі тут знайсці складана. Ну і крутыя горкі — мала хто з прыезджых можа на роварах адолець увесь пад'ём.

Палацава-паркавы ансамбль Тышкевічаў пачатку XIX стагоддзя трымае ў сабе загадку — у якім з двух падобных будынкаў быў палац. Разгадаць яе, не трапіўшы хаця б ва ўнутраны дворык, складана. Наўрад ці атрымаецца і ў вас. Палац «захапілі» сілавыя структуры. І калі адзін з будынкаў адкрыты для наведнікаў — тут ДАІ і раённая міліцыя, — то ў другім знаходзіцца закрытая воінская часць.

Застаецца разварочвацца і вяртацца на цэнтральную плошчу Свабоды да касцёла святога Іосіфа. Тут ёсць і помнік Іаану Паўлу ІІ, адкрыты ў 2005, у год смерці Папы. Ён стаў другім у Беларусі — мосарскі ксёндз Юозас Булька апярэдзіў валожынцаў на месяц.

У суседнім квартале варта пабачыць першую ва Усходняй Еўропе вучэльню па падрыхтоўцы рабінаў. Адкрытая яшчэ ў 1803 годзе, іешыва працавала ажно да вайны, калі апошнія вучні былі расстраляныя фашыстамі.

## Валожынскі побыт

У горадзе можна і камфортна пераначаваць. Мясцовы трохзоркавы гатэль «Карона» адкрыўся з паўгода таму. Праўда, і цэны складана назваць нізкімі. Аднамесны нумар будзе каштаваць 170—180 тысяч рублёў, а двухмесны абыдзецца ў 300—600 тысяч.

У Валожыне налічваецца каля сямі кафэ і рэстаранаў. Паабедаць можна ў той самай «Кароне». Абед тут будзе каштаваць каля 50 тысяч рублёў.

У мясцовы музей варта заехаць праз пару гадоў, калі скончыцца яго маштабная рэканструкцыя. У яго сутарэннях будзе экспазіцыя, прысвечаная вытворасці жалеза, на першым паверсе — «Прырода і экалогія» з асобнымі стэндамі пра радыяцыйнае забруджванне, а на другім — класічная экспазіцыя пра слынных людзей Валожыншчыны.

Адваротны шлях у Мінск зойме менш за гадзіну часу — усяго 70 км па добрым асфальце. Дарэчы, па дарозе можна заехаць яшчэ ў Пяршаі і Ракаў, кантрабандысцкую сталіцу Заходняй Беларусі.

**Ягор Марціновіч, фота аўтара і globus.tut.by**



У іх свой футбол, а ў нас свой. Беларусь і Літва ў таварыскай сустрэчы пераможцу не выявілі — 1:1. На фота: Рэнан Брэсан. Натуралізаваны бразілец правёў першую сустрэчу ў майцы зборнай пры родных трыбунах.

PHOTO BYMEDIA.NET



Пасол Швецыі Стэфан Эрыксан на парапеце тэрасы пасольства. На прыём у гонар Дня Швецыі прыйшло 450 чалавек.



ONLINER.BY

Тарнада ў Гродне: аўтобус падкінула на два метры. Незвычайная для нашых шыротаў прыродная з'ява зарэгістраваная 9 чэрвеня.



У Мінску ў таксі можна пакатацца з жывой вавёркай. Пятро Панкратаў выхадзіў ваверчаня, калі служыў у спецназе.



Ліса стала пастаянным кліентам бензакалонкі ў Літве. Калі ежы замала, то жывёлінка ідзе да канкуруючай АЗС.

## Анекдоты

* * *

Выступае Лукашэнка на ўсебеларускім сходзе:
— Зараз мы гатовыя да новага крызісу, нашы валютныя рэзервы моцныя, нам нічога не пагражае.
Голас з залы:
— А нам?

* * *

Пасля заявы дэпутаткі Шылавай пра тое, што заробку ў 3 мільёны дастаткова, каб утрымліваць дваіх дзяцей, нават інтэрнэттролі маўчалі тры гадзіны. Мову адняло.

* * *

Прынесла дадому хамяка ў клетцы. Вось так у майго ката з'явіўся тэлевізар.

***

Унук падыходзіць да прафесара:
– Дзядуля, а што такое мазгі?
– Не перашкаджай, унучак, у мяне галава іншым занятая...

* * *

Размаўляюць беларускі і амерыканскі генерал.
— Верыш ці не, але меню амерыканскага жаўнера каштуе 50 даляраў у дзень.
— Не веру! Нават амерыканскі салдат не з'есць за дзень чатыры мяхі бульбы!

* * *

Расійцы каментуюць новы закон аб мітынгах:
– Заўсёды хацела наведаць Беларусь. А зараз я ў ёй жыву!

* * *

Метад дубца і перніка ў Беларусі мае свае асаблівасці: у Беларусі пернікам таксама б'юць.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Куковічы, Слуцкі павет.** У нас на вяселлі абвязваюць сватоў доўгімі з палатна падаркамі — ручнікамі. З гэтым убраннем бывае часта бяда, найбольш у дарозе, як едуць да вянца, усе п'яныя, коні лятуць, і ніхто іншы раз не бачыць, што ў свата гэтага падаркі ўкруціліся ў калясо. Як свата прыцягне саўсім, ды паломіць яму падрэбрыны, дый то не скора кінуцца ратаваць яго, думаючы, што ён сп'яна жартуе.

**«НН». №22. 1912.**

**Уладзімір Някляеў, які тры гады жыве за мяжой, мае і сувязі, і імпэт палітыка.** У 2001 Някляеў засвяціўся эмацыйнымі выступамі на мітынгах, але не змог паўплываць на ходу падзеяў, казаў пра «адсутнасць энергетыкі» ў апазіцыі. Зноў з'ехаў за мяжу. У красавіку 2002 Някляеў зрабіўся старшынёй беларускарасійскага фонду «За новую Беларусь». Магчыма, для Някляева падрыхтаваны добры трамплін «у вялікую палітыку».

**«НН». №22. 2002.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 12.06.2012.
Замова №2304.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614